*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 5 лютага 1988 г. № 6 (3416) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## У НУМАРЫ:



Хвіліна одуму. Народны мастак СССР Міхась САВІЦКІ ў майстэрні.
Фота А. ШАБЛЮКА.

**Я перакананы, што народнае мастацтва, якое з'яўляецца самой душой народа, першым рушыць у вяліні наступ па ачыстцы сучаснай эстрады ад пошласці і пустапарожняй забаўляльнасці.**

**Захапляючыся канцэртам сяброў з Беларусі, хачу пажадаць кожнаму з салістаў хору, а таксама мастацкаму кіраўніку М. Дрынеўскаму новых творчых поспехаў.**

**П. ЮРЧАНКАЎ,**
**настаўнік гісторыі.**

Украінская ССР,
г. Луцк.

●

ПРА мастацка-гістарычныя страты Віцебска многа гаварылася і гаворыцца дагэтуль. Страты гэтыя, нічым не кампенсаваныя, нанеслі гораду велізарную шкоду. І не дзіўна, што «эстэтычны вакуум» непакоіць сёння мастацкую інтэлігенцыю горада, усіх патрыётаў Віцебска. Даўно наспела патрэба стварыць у Віцебску мастацкі музей. І не музей для «галачкі», не наспех сабраную «галерэю» няпэўных каштоўнасцей, а сапраўднае сховішча духоўных скарбаў стагоддзяў.

Якім жа павінен быць Віцебскі мастацкі музей? Перш-наперш, вартым яго тысячагадовай гісторыі. Усім нам вядомы выраз «храм мастацтва». Вось такім храмам і павінен стаць наш музей. Ёсць даўняя цудоўная традыцыя адводзіць для збораў мастацтва лепшыя палацы, якія мае горад, мясціны, дзе пануюць цішыня і гармонія. Ёсць і ў нас адпаведны будынак — былы палац губернатара. Лепшага, больш вартага месца для музея ў горадзе няма і шукаць не трэба.

Летась у сувязі з правядзеннем рэспубліканскай выстаўкі «У краі блакітных азёр» у Віцебску разгарнулася кампанія па стварэнні нейкай «прыбудовы» (незразумела, да чаго?), у якой павінен размясціцца мастацкі музей.

Можа, прасцей было б на гэтыя ж сродкі пабудаваць сучасны адміністрацыйны будынак, куды потым перавесці ўстанову, якая зараз займае палац губернатара, а вызвалены будынак аддаць пад музей?

Таксама спрэчнай уяўляецца мне задума зрабіць творы выстаўкі «Край блакітных азёр» асновай экспазіцыі будучага музея. Мастацкі музей старажытнага горада, зразумела, можа мець варты аддзел сучаснага мастацтва. Але не ён павінен вызначаць аблічча музея (і ўжо тым больш — не адна выстаўка, якой бы яна ні была).

Віцебскі мастацкі музей павінен быць зборам выяўленчага мастацтва, якое ўвасабляе культурную гісторыю горада і ўсёй Віцебшчыны. Зразумела, без падтрымкі рэспубліканскіх устаноў — Міністэрства культуры, Акадэміі навук, творчых саюзаў, музеяў — ажыццявіць гэта немагчыма.

Шмат імён і падзей увабрала ў сябе жывапісная гісторыя Віцебска. Гэта вядомыя мастакі XIX ст. — Ю. Пешка, Г. Хруцкі, К. Савіцкі, І. Трутнеў, Л. Туржанскі, Б. Тамашэвіч, А. Ромер і многія іншыя. Асэнсавання патрабуе мастацтва Віцебска першых паслярэвалюцыйных дзесяцігоддзяў. У экспазіцыі музея павінна быць прадстаўлена творчасць К. Малевіча, Э. Лісіцкага, В. Волкава, М. Лебедзевай, З. Гарбаўца, Я. Мініна, Ю. Пэна... Віцебшчына — радзіма многіх сучасных майстроў мастацтва Беларусі.

Стварэнне Віцебскага мастацкага музея — справа рэспубліканскай значнасці. Мастацкая гісторыя старажытнага горада — наш агульны здабытак, і праграма яе ўвекавечання павінна аб'яднаць не толькі віцябчан, але ўсіх, каму дарагая культура Беларусі.

**А. МЕМУС,**
**мастак.**

г. Віцебск.

●

**ПРАЧЫТАЛА ў «ЛіМе» за 22 студзеня нататку «З нараджэннем, «Крыніца»!» і не стрымалася, каб не напісаць вам, не выказаць свае думкі і ўражанні. Я не крытык, не літаратуразнаўца, я настаўніца беларускай мовы і літаратуры. Выпісала новы часопіс з надзеяй, што ён дапаможа далучыць маіх вучняў да беларускай літаратуры, нацыянальнай гісторыі і культуры. Скажаце, можна і па іншых крыніцах гэта зрабіць. Згодна. Ёсць «Полымя», «Маладосць» і інш. Але ж — «Крыніца»!.. Хацелася б пачытаць і ўбачыць на яе старонках нешта чыстае, светлае, як нашы беларускія крыніцы. Нешта святое і роднае. Спадзявалася знайсці матэрыял пра Кастуся Каліноўскага (праўда, гэты матэрыял абяцае часопіс «Беларуская мова і літаратура ў школе», ды штосьці доўга няма яго), ... а тут — не тое, што чакалася. Згодна з аўтарам артыкула ў адным: «Не трэба спяшацца з ацэнкамі, выносіць прысуд, выказваць абурэнне ці захапленне — рана». Што ж, сапраўды, пачакаем наступных нумароў. Толькі няхай бы шаноўная рэдакцыйная калегія памятала, што гэта «Крыніца», якая павінна несці жывую ваду да сэрцаў моладзі, а не заігрываць з ёй. Мне падалося, што многія матэрыялы разлічаны на не надта высокі густ.**

**Калі я прынесла часопіс у 10 клас (на жаль ці на шчасце, выпісалі ў гэтым класе ўсяго 1 экземпляр на беларускай мове і два — на рускай), дык ведаеце, што выклікала найбольшую цікавасць? Двое самых гультаяватых хлопцаў, якія не цікавяцца ні літаратурай, ні мастацтвам, адразу ж «накінуліся» на ілюстрацыі (каляровыя ж!) на 26—27-й старонках (пра брэйк).**

**А адна з лепшых вучаніц класа дала ацэнку часопісу амаль такую ж, як і я. Таму мне і здаецца, што я не памыляюся. Будзем чакаць, што рэдкалегія паклапоціцца пра чысціню сваёй «Крыніцы».**

**А. РУДКО,**
**настаўніца.**

г. Смаргонь.

●

ЗУСІМ нядаўна мы адзначылі 65-ую гадавіну стварэння СССР. Адна з крыніц сілы нашага шматнацыянальнага Саюза ССР, нашай шматнацыянальнай краіны — гэта дружба народаў, і наша задача ўсяляк яе ўмацоўваць.

Між іншым, на старонках нашага друку пачалі з'яўляцца матэрыялы, якія, мякка кажучы, выклікаюць здзіўленне, не спрыяюць інтэрнацыянальнаму выхаванню.

Нядаўна прачытаў кнігу дактароў гістарычных навук М. І. Краўчука і М. Б. Паграбінскага «Правераная вайной», выдадзеную ў Маскве Палітычным выдавецтвам. Фактычныя недакладнасці і памылкі выдання, на мой погляд, могуць дэзарыентаваць чытача і даць падставу буржуазным ідэолагам для абвінавачвання савецкіх гісторыкаў у фальсіфікацыі гістарычных фактаў.

Што я маю на ўвазе?

Чатыры паветраныя тараны было на рахунку камуніста беларуса Барыса Іванавіча Коўзана. У кнізе ён названы сынам Украіны (стар. 36). На стар. 57 расказваецца аб бессмяротным подзвігу лейтэнанта Аляксандра Канстанцінавіча Гараўца, які збіў у адным баі дзевяць варожых самалётаў. «Такой колькасці самалётаў у адным баі за час вайны не збіваў ніхто», — пішуць аўтары кнігі. Усё правільна. Але навошта спатрэбілася старшага лейтэнанта беларуса А. К. Гараўца пераўтвараць у лейтэнанта-ўкраінца?

На стар. 27 вядомыя военачальнікі А. І. Антонаў і В. Д. Сакалоўскі прылічваюцца да сыноў Беларусі. На самай справе, яны рускія, толькі генерал арміі А. І. Антонаў з'яўляецца ўраджэнцам горада Гродна, а Маршал Савецкага Саюза В. Д. Сакалоўскі нарадзіўся ў вёсцы Козлікі цяперашняга Беластоцкага ваяводства ПНР.

На стар. 34 гаворыцца, што абаронай Брэсцкай крэпасці кіравалі рускія капітан І. М. Зубачоў, лейтэнант А. М. Кіжаватаў. Аднак, Герой Савецкага Саюза, начальнік 9-й заставы 17-га Брэсцкага Чырвонасцяжнага пагранатрада лейтэнант Андрэй Мітрафанавіч Кіжаватаў па нацыянальнасці быў мардвінам.

У кнізе «Правераная вайной» адзначаецца, што старшынёй Цэнтральнага штаба партызанскага руху быў зацверджан П. К. Панамарэнка (стар. 89). Гэта недакладна. Першы сакратар ЦК КП(б)Б Пантэляймон Кандратавіч Панамарэнка ў час Вялікай Айчыннай вайны быў начальнікам Цэнтральнага штаба партызанскага руху.

На стар. 91 падкрэсліваецца, што славуты партызанскі атрад К. Заслонава быў сфарміраваны Смаленскім абкомам ВКП(б). У сапраўднасці гэтым абкомам партыі была сфарміравана група пад кіраўніцтвам К. Заслонава. А партызанскі атрад Канстанціна Заслонава быў створан пазней на беларускай зямлі Аршанскім партыйным цэнтрам.

Аўтары кнігі лічаць сакратара Мінскага падпольнага гаркома партыі Ісая Паўлавіча Казінца беларусам (стар. 94). На самай жа справе ён быў яўрэем.

Прыкра, што такія памылкі і недакладнасці дапушчаны аўтарамі з вучонымі ступенямі дактароў гістарычных навук.

Ці ўзяць такія факты.

У некаторых кнігах і публікацыях гарады Гомель, Мсціслаў і іншыя беларускія гарады называюцца рускімі. На наш погляд, тое, што гэтыя гарады некаторы час уваходзілі ў склад РСФСР, ніяк не дае падстаў называць іх рускімі.

У радзе публікацый мастака Марка Шагала называюць рускім мастаком. Аўтары гэтых матэрыялаў, мусіць, лічаць падставай для падобных сцвярджэнняў той факт, што Шагал нарадзіўся ў 1887 годзе на тэрыторыі Расійскай імперыі. На наш погляд, куды больш падстаў называць яго французскім або беларускім мастаком.

У гісторыю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Петраградзе, гісторыю рэвалюцыйнага руху ў Беларусі навечна ўвайшло імя палымянай рэвалюцыянеркі Веры Кліменцьеўны Слуцкай, якая нарадзілася ў Мінску. У радзе артыкулаў, якія надрукаваны ў нашай рэспубліцы, В. К. Слуцкую называюць «слаўнай дачкой беларускага народа», «вернай дачкой беларускага народа». Гэта недакладна. Лепш пісаць: «ураджэнка Беларусі», «беларуская рэвалюцыянерка». Як вядома, Берта Калманаўна (сапраўднае імя і імя па бацьку В. К. Слуцкай) нарадзілася ў яўрэйскай сям'і.

Выступаючы 1 лістапада 1987 года ў парку імя Янкі Купалы, прадстаўнік нефармальнай арганізацыі «Тутэйшыя» гаварыў аб генацыдзе да беларускай інтэлігенцыі ў 30-х гадах. Гэта не зусім правільная ацэнка падзей, якія адбываліся тады ў нашай рэспубліцы і ва ўсёй Савецкай краіне. У тыя гады ў выніку рэпрэсій, або, як пісаў Павел Пруднікаў у 52-м нумары «ЛіМа» за мінулы год, «у гады сталінскага тэрору» загінулі альбо былі сасланы многія выдатныя пісьменнікі, вучоныя і іншыя таленавітыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі. Але ў ліку рэпрэсіраваных у рэспубліцы былі не толькі беларусы, але і рускія, палякі, яўрэі, літоўцы і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, якія жылі ў той час у Беларусі. Калі ў 1930 годзе ў Мінску быў незаконна арыштаваны заснавальнік беларускай савецкай гістарычнай навукі акадэмік У. І. Пічэта, бацька якога быў герцэгавінцам, а маці — украінкай, яму было прад'яўлена абвінавачанне ў «вялікадзяржаўным шавінізме, беларускім нацыяналізме і празаходняй арыентацыі». Толькі ўдумайцеся — адначасова! Такім жа рэпрэсіям падверглася інтэлігенцыя ў іншых саюзных рэспубліках. З жалем павінен канстатаваць, што навука і культура ў гэтых рэспубліках панесла не меншыя страты, чым у нас. Гэта была наша агульная бяда.

«...Мы жывём у шматнацыянальнай дзяржаве, — адзначаў у час урачыстасцей, прысвечаных 70-годдзю Вялікага Кастрычніка, Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў, — дзе любыя сацыяльна-эканамічныя, культурныя, прававыя рашэнні прама і непасрэдна закранаюць і нацыянальнае пытанне». Неабходны ўважлівыя адносіны да нацыянальных пачуццяў і да гісторыі, і да культуры, і да мовы ўсіх народаў, поўная і фактычная роўнасць. Гэта тым больш важна, што ў жыццё ўступаюць новыя пакаленні і іх трэба выхоўваць у духу інтэрнацыяналізму. Адзіна правільны падыход пры гэтым — праўда гісторыі і вернасць прынцыпам ленінскай нацыянальнай палітыкі. У вялікім і малым.

**Э. ІОФЕ,**
**дацэнт Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага, кандыдат гістарычных навук.**



На здымку (злева направа): С. Грахоўскі, В. Зуёнак і Р. Пушкін.

**Госцем Саюза пісьменнікаў Беларусі былі праўнукі Аляксандра Пушкіна Р. Пушкін і А. Чаркашын, якія, дарэчы, першым склаў усю радаслоўную сусветна вядомага паэта. У час сустрэчы ў канферэнц-зале, якую вяла дырэктар Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР Г. Васілеўская, яны расказалі аб жыцці і творчасці Аляксандра Сяргеевіча, нагадалі многія цікавыя факты з яго біяграфіі.**

Фота Ул. КРУКА.

# «Купалава кніга»

**106-ай гадавіне з дня нараджэння Янкі Купалы і 80-годдзю выхаду ў свет яго першага зборніка «Жалейка» прысвяцілі літаратурна-мастацкую выстаўку «Купалава кніга» супрацоўнікі Літаратурнага музея паэта. Галоўную мэту яе можна выказаць словамі песняра: «У свеце няма такой краіны, дзе кніга так глыбока пранікла б у масы працоўных, як у нашым Савецкім Саюзе». У адзінаццаці раздзелах выстаўкі прапануецца рэтраспектыўны паказ купалаўскіх выданняў ад 1908 года па сённяшні дзень.**

**Адкрывае экспазіцыю «Жалейка» і зборнік «А хто там ідзе?», у якім вядомы верш Я. Купалы прадстаўлены ў арыгінале і ў перакладзе на 84 мовы народаў свету. Экспануюцца рукапісы верша «А хто там ідзе?», паэм «Яна і я», «Бандароўна», шэраг дарэвалюцыйных і паслярэвалюцыйных выданняў паэта, зборы твораў розных гадоў.**

**Увагу наведвальнікаў прыцягваюць Купалавы кнігі, адзначаныя дыпломамі Усесаюзнага конкурсу мастацтва кнігі. Сярод іх «Паэмы», аформленыя А. Кашкурэвічам. Зборнік, выпушчаны «Мастацкай літаратурай», атрымаў дыплом XI міжрэспубліканскага конкурсу мастацтва кнігі Беларусі, Літвы, Латвіі і Эстоніі, а таксама дыплом імя Францыска Скарыны за мастацкае рэдагаванне.**



Першую экскурсію праводзіць старшы навуковы супрацоўнік С. Майхровіч.

**Кніга «Яна і я» ўражвае сваім паліграфічным выкананнем. Пры друку выдавецтва прапанавала спосаб фальцоўкі «матылёк». Гэта першае падобнае выданне ў СССР. Мастак — Г. Паплаўскі.**

**Прадстаўлены таксама графічныя работы А. Кашкурэвіча, Г. Паплаўскага, М. Басалыгі, В. Шаранговіча, В. Александровіча, якія працавалі над афармленнем кніг Я. Купалы.**

**На адкрыцці выстаўкі выступілі дырэктар музея Ж. Дапкюнас і Г. Паплаўскі.**

**М. СЦЯПАНАВА.**

ПАЭЗІЯ

**Святлана БАСУМАТРАВА**



# З кнігі «Званы чалавечнасці»

## Водпаведзь

— Маладыя, здаровыя,
А сумленне апошняе страцілі.
Не шкадуюць цяперка
Ні брата, ні бацькі, ні мацеры.
Не баяцца нічога:
Ні д'ябла, ні тое міліцыі.
Працаваць не жадаюць,
Не тое, што богу маліцца, —
Так казала яна
І сябе называла «сяstriцаю».

І маланкава бліскалі
Вочы пад чорнаю хусткаю.
Як вужака, сіпела «сястрыца»
Нядобрымі вуснамі.
Быццам ветрам злавесным
Кранула знянацку струну:
— Не, цяпер на людзей
Такі трэба, ой, трэба вайну...

— Пачакайце, «сястрыца».
Няўжо ж вы пра тое забыліся,
Што бацькі і сыны
У вайну мужна з ворагам біліся.
Толькі дня Перамогі
Не усе прычакалі яны —
Свае жыцці паклалі
За наша жыццё без вайны.

Дык ці след папракаць,
Што жывём маладыя, здаровыя
Што нас возяць тралейбусы
І «Жыгулі» каляровыя,
Што адзеты-абуты
І дзетачкі ў нас не галодныя.
Што ў суседскіх дзяўчатак
Завушнічкі і боцікі модныя.

Маладыя працуюць —
Будуюць, кіруюць заводамі.
У нядзелю — за горад,
Заняліся садамі-гародамі.
Брэйкі, сінія вейкі —
Несур'ёзныя выбрыкі.
Праўда, ёсць і злачыннасць —
У сям'і не без вырадка.

Ды хлапец ганарысты
З чупрынай
сучасна-ўскалмачанай
На каленях рыдае
Над заўчаснай магілаю
матчынай.
А жанчынка ў нітроне
І пальчык з бліскучым
пярсцёначкам,
Як малітву, уночы
Калыханку пяе над дзіцёначкам.

Каб заснула спакойна дзіцятка,
А рана прачнулася.
Каб ласкавае сонейка
З мірных нябёс усміхнулася.
Каб плылі аблачынкі
Галубамі над нашымі хатамі
І павек не ўзляцелі ракеты,
Што завуцца крылатымі.

Хай без бацькі дзіця,
Сябе маці не лічыць няшчаснаю.
Ад жыцця не схаваецца
За малітвай і крыўдай уласнаю.
Да яе на парог
Вы дарэмна, «сястрыца»,
прыйшлі.
Пажадалі вайны,
Гэта ж гібель жыцця на зямлі.
Як вы толькі такое прамовілі?
Як вы толькі такое маглі?!

## Матуля

Матуля
П'е настойку палыну.
Што данімае, мама,
Боль ці памяць?
Мо бачыш зноў
Праз бэзавую замець
Галоднае дзяцінства
І вайну...

У трыццаць сёмым
Быў сасланы дзед
У край,
Што называлі «салаўкамі»
(А там адвучаць
Ляпаць языкамі,
Чарніць
Правадыра аўтарытэт).

Як вы жылі...
А так вось і жылі.
Хлябнулі
І крапіўнічку, і гора:
Бабулі — трыццаць пяць,
Дзяцей пяцёра.
Дапамагалі людзі,
Чым маглі.

Бамбёжка, акупацыя —
Вайна.
Насуперак
«Нямецкаму закону»
Хавалася матуля
Ад палону
Але...
Не ўратавалася яна.

...Не зажыло,
Не зарасло быллём —
Глухі фальварак
У Прусіі Усходняй.
Ваконца,
Плесня на кутках і сходах —
Падвал,
Які служыў табе жыллём.

Не везлі тую вестку
На валах —
Яна ляцела
Тэлеграмай хуткай:
— «Берлін капітуляваў!»
Папуткай,
Таварным, пешшу —
На Радзіму шлях.

Ляцела,
Як жураўачка, здаля.
Не ведала,
За шчасцем ці бядою.
Ды як ні жыць —
З вадою, з лебядою,
А толькі б там,
Дзе родная зямля.

Даруй, матуля,
Доччыну віну,
Якую не заўсёды
Адчуваю
І рэдкай,
І нястрымманай бываю.
Спытацца пра здароўе
Забываю.
...Не скардзішся,
І толькі, як засну,
Ты моўчкі п'еш
Настойку палыну.

## Родная мова

Знаёмы казаў:
— Ты б пісала па-руску,
Бо й Пушкіным Пушкін
Іначай не стаў.
...А вершы мае
Прадавалі «ў нагрузку» —
«Прычэп» да
«Даведніка лекавых траў».

Так, побач з гербарыем —
Вершы жывыя.
Яшчэ і такая прычына
Была:
Пазначана «Кветкі.. было
...палявыя» —
Такую ўжо назву
Я кніжцы дала.

У продажу гэткім
Бязладнага столькі,
Ганебнага,
Прыкрага столькі ўсяго...
— Мой сябра, паэце,
Няўжо ж гэта толькі
З табой мы чытаем
Адзін аднаго?

Няўжо занялала
Прабабчына слова,
Якое з маленства
У сэрцы таю?
— Мая беларуская
Родная мова,
Наколькі змагу,
За цябе пастаю.

## Лёнік

Глядзі, цягае скрыні
Ля ларка...
— А не згадзіўся ж
Вартаваць кароўнік...
...У каваля
Малодшага сынка
Назвалі Леанід,
Ці проста Лёнік.

Любіў канькі,
Марозную зіму.
Хлапчынка рос удалы,
Не лядачы:
Знаўёту ўсё
Давалася яму —
Футбольны мяч
І школьныя задачы.

Пайшоў у войска,
Атрымалі ліст,
У ім... «Ваш сын
Да службы вельмі здатны.
Цудоўны атрымаецца
Танкіст,
А да таго ж
Таварыш ён выдатны».

Павінен быў прыйсці
Праз два гады.
Прыйшоў праз год,—
Капрызная планіда.
Вярнуўся,
Хударлявы, малады,
З казённаю паперкай
Інваліда.

Бо там, на службе,
У адной з атак,
У танкавай,
Вядома што вучэбнай,
Як быццам нешта
Выключыў не так,
Або ўключыў не тое,
Што патрэбна.

Уночы маці плакала
Наўзрыд:
Хоць цэлы зрок,
На месцы ногі, рукі,
Прызнала медыцына —
Інвалід,
І строга забаронены
Навукі.

І пенсію прызначыла яму,
Такую, што прыстойна
Жыць магчыма.
...А ён — у ботах
Лета і зіму,
І ўсё глядзіць
Дзіцячымі вачыма.

Папросяць людзі —
Гной развалачэ,
Паносіць торф,
Або паколе дровы.
Жанчыны пажартуюць —
Уцячэ,
А з выгляду —
Прыгожы і здаровы.

Цураецца дзяўчат,
Нібы стары,
Хоць і па ім
Равесніцы ўздыхалі.
Па вечарах
За рэчкаю кастры
З калгаснымі ён паліць
Пастухамі.

Курыцца едка
Горкая жарства...
Яму, майму равесніку,
Пад сорак.
Крычыць здалёк
Саплівая дзятва:
— Здарова, Лёнік!
— Прывітанне, Лёнік!

Аблезлая штармоўка
На плячах.
Ні сумны, ні вясёлы —
Аніякі
Ля вогнішча сядзіць ён,
А ў вачах —
Злавесны водбліск
Танкавай атакі.

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# «Іх лёс стукае ў сэрцы»

Так называўся ліст у рэдакцыю пісьменніка Паўла Пруднікава, надрукаваны ў «ЛіМе» за 25 снежня 1987 года. Як паказала пошта, публікацыя знайшла гарачую падтрымку ў нашых чытачоў: яны таксама за тое, каб ушанаваць памяць пісьменнікаў — ахвяр незаконных рэпрэсій у трыццатыя—саракавыя гады. Ніжэй друкуем радкі з пісьмаў.

●

Цалкам падтрымліваю прапанову Паўла Пруднікава аб тым, што пра лёс літаратараў — ахвяр рэпрэсій — неабходна сказаць усю праўду. На заклік аўтара «ўшанаваць імёны нявінна загінуўшых, аддаць належнае іх светлай памяці» ўношу і свае прапановы. Мне здаецца, што найлепшай памяццю пра загінуўшых пісьменнікаў будзе выданне збораў іх твораў, а ў школах, дзе яны вучыліся ці працавалі, — стварэнне мемарыяльных куткоў, музеяў, наданне іх імёнаў школам, бібліятэкам.

Думаецца, што выдаткі, звязаныя з ушанаваннем памяці загінуўшых пісьменнікаў, могуць узяць на сябе — па праву зямляцтва — мясцовыя органы ўлады, калгасы і саўгасы. Скажам, у Рудзенску нарадзіўся і вучыўся Міхась Чарот (Кудзелька). Дык хіба саўгас «Рудзенскі» не можа паруліцца, каб увекавечыць памяць пісьменніка-земляка?

**А. АНЦІПОВІЧ,**
**начальнік аддзела кадраў Мінгарупраўлення статыстыкі.**

●

Падзяляю боль Паўла Пруднікава, які ён выказаў у сваім лісце. Згодзен, што пра загінуўшых у часы сталінскага тэрору трэба сказаць усю праўду. А для гэтага неабходна перш-наперш даць магчымасць даследчыкам працаваць з так званымі сакрэтнымі архівамі. Узнікае пытанне: чаму і праз пяцьдзесят год яны застаюцца забароненымі для шырокіх колаў грамадскасці? Такое становішча супярэчыць дэмакратыі. Добрае імя рэпрэсіраваным павінна быць вернута і пацверджана дакументальна.

**М. ШУКАНАЎ,**
**студэнт V курса ГДУ.**

г. Гомель.

●

З вялікім сумам чытаў пісьмо ў рэдакцыю Паўла Пруднікава. Дык колькі ж іх было? Пакуль там дошкі вырабляцца будуць, ці нельга надрукаваць прозвішчы ўсіх майстроў беларускага слова, якія сталі ахвярамі культу? Тады грамадскасць будзе ведаць гэты спіс, і ніхто не будзе забыты, і нішто не будзе забыта.

**В. БАНАЙЦІС.**

Новая Вільня.

●

У маёй радні таксама былі рэпрэсіраваныя, і нічога агульнага з «ворагамі народа» яны не мелі. І кожны раз выраз «жыццё абарвалася ў трагічным 1937 годзе» ўспрымаю з болем. Таму калі 1 лістапада я прыйшла да помніка Янку Купалу і пачула, аб чым гавораць на «дзядах», я адчула сваю прыналежнасць да гэтых людзей — маіх аднадумцаў. Гэта гучаў рэквіем па бязвінных ахвярах палітыкі «знішчэння розумаў». Лічу, што вельмі своечасова ён прагучаў. Магчыма, яшчэ жывыя тыя, хто ведаў зняважаных і загубленых, хто жыў з імі побач і разам, для каго проста неабходна, каб блізкія ім людзей успомнілі добрым словам, каб заступіліся за іх зняважаную чалавечую годнасць. Я не належу да кола літаратуразнаўцаў, і многія з пералічаных прамоўцамі прозвішчаў знаёмы мне толькі таму, што сустракаліся ў нечых успамінах ці вершах, але ў мяне ўзнікла жаданне бліжэй пазнаёміцца з гэтымі пісьменнікамі, з іх творамі, з іх думкамі. Здаецца мне, што нічога «варожага» там няма. Я чытала запісы-ўспаміны Я. Сіпакова пра Сяргея Сцяпанавіча Дзяргая ў «ЛіМе» і пранікласл павагай да гэтага чалавека, на долю якога выпала столькі пакут. З цікавасцю прачытала і артыкул В. Голуба «Якіх часоў логіка?» у другім нумары «ЛіМа» за гэты год. З аўтарам яго я па многіх пытаннях згодна. Сёння трэба казаць праўду аб мінулым, трэба пазбыцца «белых плямаў» у гісторыі.

**Т. ЛУК'ЯНАВА,**
**інжынер.**

г. Мінск.

## ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ

# Я — ЗА ДЫЯЛОГ

**У гаворцы, распачатай летась у штотыднёвіку Л. Дранько-Майсюком (17 ліпеня), прынялі ўдзел Л. Галубовіч (21 жніўня), А. Сідарэвіч (2 кастрычніка), Т. Чабан (20 лістапада), а таксама нашы чытачы. Сёння слова бярэ паэт і журналіст Навум Гальпяровіч.**

АДДАЮ належнае Леаніду Дранько-Майсюку, які, як гаворыцца, «на злом галавы» кінуўся ў праблему, што не можа не хваляваць кожнага, хто любіць літаратуру, роднае слова.

Па сабе ведаю, як нялёгка бывае саўладаць з эмоцыямі, і потым шкадуеш, што сказаў не ўсё, а тое, што сказалася, можна было б выказаць больш пераканаўча і грунтоўна. Але на тое і палеміка, каб вымаўленае першым набывала працяг, дапаўнялася, акрэслівалася, каб праблема набывала належную шырыню, належныя абсягі.

Цікавы наш паэт Леанід Галубовіч з уласцівай яму шчырасцю надаў гаворцы нейкія новыя якасці: заглыбіў і ўдакладніў — на маю думку, зусім слушна — асобныя пазіцыі, і зноў, каторы ўжо раз, звярнуў нашу ўвагу на шэрую плынь, якая даволі шчодра льецца на галовы бедных чытачоў.

Хто ж ён, наш чытач? Дзе сёння асноўнае кола чытачоў нашай літаратуры? Так, менавіта ў горадзе, бо хоць урбанізацыя, як пісаў Л. Дранько-Майсюк, яшчэ «канчаткова не праглынула нашы вёскі і мястэчкі», тым не менш яна істотна змяніла і дэмаграфічную сітуацыю ў рэспубліцы, і чытацкае асяроддзе, на густы і патрэбы якога вымушаны зараз арыентавацца нашы пісьменнікі.

Аднак колькасныя змены сярод тых, хто сёння «заказвае музыку» (дакладней, літаратуру), не заўсёды адпавядаюць якасным. І, вядома, ёсць пэўная небяспека, што бойкая белетрыстыка, якая лёгка чытаецца ў трамваі ці метро, па сваёй папулярнасці пакіне ззаду творы сур'ёзныя, глыбокія, самай сапраўднай вартасці. Ды паглядзіце, як чытаюць зараз В. Астаф'ева, А. Прыстаўкіна, А. Рыбакова, В. Дудзінцава!.. Даніна модзе? Магчыма, недзе і так. Але ў душах многіх людзей гэтыя творы пакінуць глыбокі след, многіх заахвоцяць звярнуцца да сапраўднай літаратуры. Так што мода модай, а быць на вастрыі грамадскай і чалавечай думкі, будзіць «душы высокія парывы» — ці ж не гэта найвялікшая задача творцы?

Твораў такога надзённага гучання нашай літаратуры пакуль што бракуе. А нам жа трэба асабліва клапаціцца пра чытача яшчэ і таму, што... Ужо некалькі пакаленняў чытачоў не могуць ці не хочуць — так сталася — чытаць па-беларуску. І як вынік — такія кур'ёзныя выпадкі, калі «Алімпіяду» І. Пташнікава прымаюць за твор «пра алімпійскія гульні», а «Футбол на замініраваным полі» Л. Дайнекі ляжыць у аддзеле спартыўнай літаратуры.

Дык што ж рабіць? Вядома ж, пісаць добрую і вартую ўвагі літаратуру. Але не замыкацца ў «вежы са слановай косці», а сачыць за тымі працэсамі, якія адбываюцца ў грамадстве. І справа тут, канечне, не ў «вясковых» ці «гарадскіх» творах. Урэшце, вясковыя ці гарадскія пісьменнікі Г. Бураўкін, А. Жук ці А. Кудравец? Але чытач вырас новы, чытачу хочацца адшукаць адказы на сённяшнія **свае** пытанні. Пры яго, мякка кажучы, індыферэнтнасці да роднага слова ёсць патрэба часам даказваць, што і мы не горшыя...

У чым феномен нашага незабыўнага У. Караткевіча? Чаму ўсё ж чытаюць творы В. Быкава, Я. Брыля, Н. Гілевіча, П. Панчанкі, маладзейшых — А. Разанава, У. Някляева, Л. Галубовіча, У. Арлова, А. Мінкіна, Л. Дранько-Майсюка? Гэта актуальна, гэта сучасна, гэта сугучна думкам і развагам многіх, гэта вырываецца з устойлівага стэрэатыпу, які беларускую літаратуру вызначае як ціхую, рахманую, спрэс «эпічна-лірычную».

Патрэба ўзнікла ў літаратуры інтэлектуальнай, калі хочаце, тонкай, з пошукам новых падыходаў. Літаратуры, якая ідзе ад М. Гарэцкага і У. Хадыкі, Б. Мікуліча і У. Жылкі, М. Багдановіча і А. Куляшова. Я, вядома, ні ў якім разе не хачу закрэсліць выдатных дасягненняў нашых пісьменнікаў і ў іншых літаратурных жанрах.

Гавару пра гэта і таму, што жыву ў горадзе маладым, новым, дзе адбываюцца досыць складаныя працэсы станаўлення і рабочага класа, і студэнцтва, і інтэлігенцыі — дзяцей былых вяскоўцаў, якія жывуць у дружнай сям'і з прадстаўнікамі каля 50 нацыянальнасцей, што з'ехаліся сюды з усіх канцоў нашай краіны.

Не так даўно ў адной са школ горада члены мясцовага літаб'яднання «Крыніцы» правялі анкетаванне з мэтай высветліць, чым жа цікавяцца маладыя чытачы, якія творы беларускіх пісьменнікаў чытаюць і што хочуць прачытаць. Дык вось, усе без выключэння цікавяцца літаратурай гістарычнай, прыгодніцкай, фантастыкай, творамі пра сучасную моладзь, пра каханне. І імёны называюць у асноўным тыя, якія я пералічваў вышэй. А цяпер супаставім з тым, што можна знайсці на паліцах кнігарняў. З гістарычнай літаратуры — адзін-два аўтары, фантастыкі няма ўвогуле. «Чорны павой» А. Жука, «Браты «святой ночы» В. Дубінкі «размялі» адразу. А што тычыцца твораў аб моладзі... Тут спрэс дэфіцыт.

Вялікія спадзяванні на часопіс «Крыніца», бо «Маладосць» неўпрыкмет стала надта ўжо дарослай, акадэмічнай і паступова страціла чытача-падлетка.

Відаць, таму і Саюзу пісьменнікаў, і выдавецтвам варта паклапаціцца аб развіцці такіх жанраў, як навуковая фантастыка, прыгоды, гераічная і гістарычная літаратура. І ў вядомым серыяле выдавецтва «Юнацтва» больш выдаваць твораў арыгінальных, а не ратавацца толькі перавыданнямі Купера ці Жуля Верна.

Шмат ужо гаварылася пра выданне твораў маладых пісьменнікаў. І пэўныя зрухі тут ёсць. Але ў цэлым шлях маладога, нават таленавітага аўтара да чытача яшчэ занадта доўгі. Відаць, у нейкім сэнсе тут дапамаглі б калектыўныя зборнікі ці альманахі абласных аддзяленняў і буйнейшых літаб'яднанняў рэспублікі.

Трэба ўдасканальваць жывыя, творчыя кантакты пісьменнікаў з чытачамі. Бо чытачы пакуль сустракаюцца з пісьменнікамі часцей за ўсё ў парадная, казённай абстаноўцы, дзе няма месца дыскусіі, абмену думкамі. Мясцовыя арганізатары бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП, здараецца, «навязваюць» пісьменнікаў у выпадковыя, непадрыхтаваныя аўдыторыі, дзе размова зноў жа носіць аднабаковы і фармальны характар. Так, у Полацку па віне арганізатараў сарвалася некалькі выступленняў В. Іпатавай і тэатра «Жывое слова» Мінскага педінстытута. Як высветлілася, ні ў горадзе, ні ў студэнцкіх і ў рабочых інтэрнатах пра гэтыя выступленні практычна ніхто не ведаў.

Работнікі наваполацкай бібліятэкі імя Я. Коласа з горыччу расказвалі мне, як яны два гады не маглі дамовіцца аб чытацкай канферэнцыі з адным нашым вядомым пісьменнікам, які, дарэчы, прыязджаў у горад не адзін раз.

Мы прывыклі ўжо, што на сустрэчы з чытачамі літаратар часцей займаецца самарэкламай, пазбягаючы вострых пытанняў. А ў краіне ж ідзе, набірае сілы перабудова, і каму, як не пісьменніку, мець сваю грамадзянскую пазіцыю і выказваць яе.

І яшчэ — пра культуру палемікі. Ва ўмовах дэмакратызацыі нашага грамадства, вядома, могуць быць і бываюць думкі розныя, часам процілеглыя, часам занадта завостраныя і эмацыянальныя. Але ці варта ў такім разе рэзка абрываць апанента, абвінавачваць яго ва ўсіх смяротных грахах, як гэта яшчэ ў нас нярэдка бывае? Наколькі разумею, галоўная мэта нашых дыскусій — выправіць пэўныя хібы, даць штуршок творчай думцы. Не да твару магутным «зубрам» займацца «збіваннем немаўлят», бо надта ўжо няроўныя сілы і магчымасці. А то вось наш паважаны крытык у лімаўскай анкеце і вучоны-гісторык у «Звяздзе» сярдзіта «прыкрыкнулі» на таго ж Дранько-Майсюка, не надта абцяжарваючы сябе якімі-небудзь доказамі. Ды ці ўпершыню гэта? Яшчэ адзін свежы прыклад — хваравітая рэакцыя на развагі П. Садоўскага з боку вучоных, аўтараў «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» ў часопісе «Полымя» (1987, № 11).

І справа нават не ў тым, мелі ці не мелі апаненты рацыю, а ў тым, як весці дыскусію, як даказваць сваю думку. І зусім ужо брыдка, калі ідзе падтасоўка, фальсіфікацыя, а то і бяздумнае навешванне ярлыкоў — змрочныя адгалоскі даўно асуджаных часоў.

Таму я за дыялог чытача і пісьменніка, дыялог жывы і шчыры — у цэху ці ў студэнцкай аўдыторыі, школе ці на будоўлі. Ад гэтага справа толькі выйграе. А што да амбіцый, то яны хай застануцца пры нас.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ.**
г. Наваполацк.

## ЧЫТАЮЧЫ ЧАСОПІСЫ

# ВЯРТАННЕ, ЯКОГА ЧАКАЛІ

Новае — добра забытае старое... А чаму б і не! Асабліва ў літаратуры, на карце якой так шмат мясцін, ахутаных паваловкай небыцця.

Сёння мы маем мажлівасць друкаваць шмат што з даўняга, цяперашняму чытачу невядомага. Скажам, карыстаецца папулярнасцю паэтычная анталогія «Руская муза XX стагоддзя», якую не першы год, з нумара ў нумар, вядзе на старонках «Огонька» Я. Еўтушэнка. Можна спрачацца аб прынцыпе адбору аўтараў і вершаў, але нельга не прызнаць: такія публікацыі — патрэбны, яны — як тое жыватворнае паветра, якога так не хапала доўгі час у духоўным жыцці, калі адны і тыя ж прозвішчы «выбраных» не знікалі са старонак газет і часопісаў.

Хацелася б, каб ініцыятыву — друкаваць старое, вяртаць забытае — праявіла і якое-небудзь наша літаратурна-мастацкае выданне. Жаданне гэтае «пачута» рэдакцыяй часопіса «Беларусь». Першы нумар яго за сёлетні год распачаў «Анталогію беларускай паэзіі 20-х гадоў». Весці яе ўзялася кандыдат філалагічных навук і паэтэса Ірына Багдановіч. Яна ж гаворыць і колькі слоў пра тое, што ўяўляе сабой мацярык паэзіі, народжанай Вялікім Кастрычнікам. «Перыяд 20-х гадоў у нашай паэзіі бачыцца і ўспрымаецца сёння як эпоха сапраўднага рэнесансу, магутнага ўздыму духоўных сіл народа, разняволенага рэвалюцыяй. Бурна, у барацьбе поглядаў, школ і плыняў ішоў працэс выпрацоўкі і станаўлення эстэтычных прынцыпаў новага мастацтва, ствараліся яго ўзоры, арыентаваныя на высокі ўзровень здабыткаў сусветнай культуры». Так, нельга не пагадзіцца з І. Багдановіч. Адбывалася сапраўднае духоўнае абнаўленне нацыі, яе росквіт. Паэты, што пачалі да рэвалюцыі, і моладзь, пакліканая Кастрычнікам, пісалі мастацкі летапіс часу, імкнуліся, наколькі дазваляў талент, выказаць набалелае, выявіць сваё стаўленне да таго, што адбывалася навокал. У іх жыло і гарачае жаданне зірнуць у мінулае, адгарнуць напластаванні гісторыі, убачыць, хто мы і адкуль...

Дрэва беларускай савецкай паэзіі расло хутка і пладаносіла шчодра. Быццам прадчувала яно, што неўзабаве карані будуць падсечаны, жыватворныя галіны зрэзаны. «Гэтае яркае суквецце, — слушна гаворыць І. Багдановіч, — было зрэзана пад самы корань у наступнае дзесяцігоддзе, і паступова пачало засушвацца само дрэва беларускай культуры, пачала складвацца тая драматычная сітуацыя з нашай мовай, да якой мы прыйшлі сёння». Тым больш наш маральны і грамадзянскі абавязак «успомніць напаўзабытыя скарбы паэзіі 20-х гадоў, ачысціць іх ад нацярушанага часам і выпадковымі людзьмі пылу, вярнуць іх у тым выглядзе, як яны ствараліся, адчуць і рытмы тае рэчаіснасці, і напружаныя духоўныя пошукі першага, народжанага Вялікім Кастрычнікам, паэтычнага пакалення, для большасці з прадстаўнікоў якога самаахвярнае служэнне Бацькаўшчыне было аплачана жыццём».

Вернута першае імя. У літаратуры, мажліва, і не такое гучнае, але вартае, каб пра яго ведалі. Ігнат Дварчанін — актыўны дзеяч рэвалюцыйнай барацьбы ў былой Заходняй Беларусі. Выбіраўся ў Польскі сейм, уваходзіў у актыў клуба «Змаганне», што працягваў традыцыі Грамады. Арыштаваны і асуджаны на восем гадоў. У 1932 годзе, адсядзеўшы два гады, пасля абмену палітычнымі зняволенымі прыехаў у Мінск, працаваў у Акадэміі навук БССР у камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі. Арыштавалі І. Дварчаніна ў 1933 годзе, абвінаваціўшы ў сувязях з нацдэмаўскім «цэнтрам». Адна з ахвяр культу асобы Сталіна...

Ігнат Дварчанін быў адным з самых адукаваных людзей свайго часу. Ён першым з беларускіх даследчыкаў стварыў манаграфію, прысвечаную Францыску Скарыне, склаў хрэстаматыю беларускай літаратуры. Акрамя таго, пісаў вершы. Сем з іх друкуюцца ў часопісе. Усе гэтыя творы пазначаны 1921 годам. Найбольш характэрны для І. Дварчаніна верш, сціпла названы «Брату-вучыцелю». Дваццацішасцігадовы аўтар задумваецца над тым, як жыць далей. Выбіраючы арыенціры, звяртаецца да блізкага чалавека: «Ня бойся, мой брат, не загінуць зярняты, што ўкінеш ты вернай рукой, як дар яны з неба там будуць прыняты даўно ўгатаванай раллёй».

Лірычны герой другога верша становіцца выказнікам дум народа:

**З душы пазыў нясецца звонна:**
**Няпраўда, — родная старонка, —**
**Пяройдуць годы цемнаты —**
**Да жыцця вернешся і ты...**

Наперадзе — чарговыя публікацыі. Будзем спадзявацца, што складальніца анталогіі, імкнучыся ахапіць як мага большую колькасць аўтараў, не збочыць на пратораную сцяжыну. Усё ж будзе лепш, калі мы прачытаем у анталогіі ў першую чаргу вершы паэтаў малавядомых. Нельга, праўда, забываць і тых, хто неаднаразова перавыдаваўся. Але тут прынцып адзін, на што ўжо звярнула ўвагу і сама І. Багдановіч: «ачысціць іх ад нацярушанага часам і выпадковымі людзьмі пылу».

**НАШ АГЛЯДАЛЬНІК.**

 

чым, захаваць парадаксальную яснасць і стройнасць мыслення.

Між іншым, не асабліва верыш аўтару і тады, калі ён прымушае Насту прамаўляць страсную любоўную тыраду адразу ж пасля пахавання Вахтанга. Пасля таго душэўнага ўзрушэння, якое перажыла дзяўчына, не магла яна так нечакана, увачавідкі пераключыцца на любоўна-сентыментальную хвалю. Дарэчы, не лепшым чынам выяўляе пісьменнік закаханасць сваёй гераіні, калі неабачліва прымушае паўтараць раз-пораз гэтае ласкавае «Грачок» ці «твая вавёрачка».

І ўжо зусім незразумела, чаму, навошта спатрэбілася прымушаць усіх персанажаў «тэпаць». Наста «пераскочыла ручай, тэпала лугавінай, гнала напрамкі...». Грач, развітваючыся з дзяўчынай, ласкава супакойвае: «А Грач — туп-туп, тэп-тэп... К табе буду тэпаць!». «Весялей тэпай, са мною не прападзеш», — камандуе Шаплыка дзяўчыне. Канапелька, расказваючы пра начныя гукі, зазначае: «І потым крокі, тэп-тэп-тэп... Відаць, ваўкі недзе прабеглі». Дзіўная рэч, тэпаюць усе: і людзі, і ваўкі, і коні...

Злоўжывае пісьменнік цярпеннем чытача і тады, калі шчодра ўключае ў свой моўны актыў не вельмі ўдалае «адале» ці бясконцае «абстружкаваць». Не дужа стасуецца з вобразам Насты, яе духоўным, інтэлектуальным абліччам вось гэтае грубавата-ласкавае «аторва», якім выказвае дзяўчына сваё захапленне здольнасцямі Шаплыкі, яго прадбачлівасцю, сялянскай практычнасцю.

Уважлівае прачытанне кнігі, калі выклікаюць цікавасць не знешнія перыпетыі падзей, а кожнае слова як бы прамаўляецца ўголас, успрымаецца ва ўсім яго багацці і непаўторнасці якраз і дазваляе заўважыць як пісьменніку часам нестае адчування слова. І гэта асабліва заўважна, бо перад чытачом не пачатковец, якому яшчэ толькі спазнаваць складанасці і сакрэты творчасці, а празаік сталага жыццёвага і творчага веку.

**Тамара НУЖДЗІНА.**

г. Мазыр.

# Завітайце да Блока

Папулярнасць літаратурна-мемарыяльнага музея рускага савецкага паэта Аляксандра Блока на Палессі распаўсюдзілася далёка за межы Беларусі. І ў гэтым асноўная заслуга старшага навуковага супрацоўніка Беларускага дзяржаўнага музея сацыялістычнага пераўтварэння Палесся Ф. Жураўскага. Дзякуючы яго нястомнай энергіі, нязгаснай захопленасці, ён падрыхтаваў і сабраў усе матэрыялы для музея А. Блока ў вёсцы Лапаціна.

Пашырэнне экспазіцыі праводзіцца і цяпер, яна складае каля чатырох тысяч экспанатаў, г. зн. у пяць разоў перабольшыла першапачатковы фонд.

Музей існуе больш за сем гадоў і ўсе гэтыя гады не мае штатных супрацоўнікаў. Работы вядуцца на грамадскіх пачатках. Гэта адна з галоўных праблем музейных работнікаў-энтузіястаў. У цяперашні час ключы ад скарбніцы духоўнага ўзбагачэння літаратурнай спадчынай вялікага паэта знаходзяцца ў А. Кірыковіча — дырэктара раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы. Ён сам і праводзіць экскурсіі.

Але нягледзячы на гэта, літаратурна-мемарыяльны музей А. Блока ў Лапаціне дзейнічае. І павевы часу, вецер перамен дакрануўся і да гэтага кутка культуры.

На працягу мінулага года афіцыйна паступіла 170 заявак на наведанне музея А. Блока, у асноўным з Расійскай Федэрацыі і Украіны.

І напярэдадні 1988 года аддзел культуры і Пінскае бюро падарожжаў і экскурсій заключылі паміж сабой дагавор, які забяспечыў платныя паслугі. Плануецца, што выручка ад экскурсій складзе тысячу рублёў.

Людзі едуць за тысячы кіламетраў, каб пазнаёміцца з жыццём паэта на Палессі. У студзені гэтага года пабывалі ўжо экскурсійныя групы з Херсона, Чаркасаў, Армавіра, Крывога Рога, Томска, Удмурціі, Карэліі, Башкірыі. І як ні парадаксальна: ні з Пінска, ні з Брэсцкай вобласці, ні з Беларусі ўвогуле не было ніводнага наведвальніка.

Чаму б настаўнікам у час школьных канікул (*а ў 10-х класах якраз вывучаецца творчасць А. Блока*) не паклапаціцца аб кругаглядзе сваіх старшакласнікаў. Тут, у музеі, на жывым матэрыяле, можна было б правесці ўрок рускай літаратуры. Свабодны, у форме дыялогу, дыскусіі. Надоўга запомніўся б школьнікам такі ўрок, такая блізкая сустрэча з паэтам, які сем доўгіх месяцаў свайго творчага жыцця правёў на Палессі ў вёсцы Колбы, адбываючы вайсковую службу ў якасці табельшчыка 13-й інжынерна-будаўнічай дружыны Усерасійскага Саюза земель і гарадоў.

Далучыцца да чыстай крыніцы спазнання, да скарбніцы рускай літаратуры — ці ж гэта не радасць?

**Тамара СТАНКЕВІЧ,**
**супрацоўніца Пінскага бюро падарожжаў і экскурсій.**

г. Пінск.

# Набліжаецца юбілей...

Летам мне давялося пабываць у Ялце. Чым для нас, беларусаў, дарагі гэты горад? Перш за ўсё тым, што менавіта ў ім пражыў свае апошнія месяцы і быў пахаваны выдатны паэт, класік беларускай літаратуры Максім Багдановіч.

Мусіць, Урад БССР, па рашэнні якога ставілася надмагілле М. Багдановічу ў 20-я гады, не меў тады магчымасцей і сродкаў зрабіць яго больш значным, выразным, запамінальным — адным словам, высокамастацкім. Надпіс на магільным камені не адпавядае сучасным правілам беларускай мовы. Ужо за некалькі крокаў ён не чытаецца, таму што літары зліваюцца з шэрым колерам каменя. Напрошваецца вывад: надпіс неабходна абнавіць разам з надмагіллем, якое павінна быць больш выразным, хаця б з барэльефным партрэтам нашага славутага паэта.

А калі паглядзець на ўсё гэта з другога боку? Напрыклад, ці не перавезці прах Максіма Багдановіча на бацькаўшчыну, у Мінск? Гэта яшчэ ў 1925 годзе збіраўся зрабіць наш грамадскі дзеяч і пісьменнік Я. Дыла, але, на жаль, не змог. Дык чаму б нам сёння не зрабіць гэтага?

Не за гарамі час, калі мы будзем урачыста святкаваць 100-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Неабходна, каб да гэтай знамянальнай даты набалелыя пытанні былі вырашаны.

**Алесь ЦАРЫКАЎ,**
**юрыст.**

г. Мінск.

## З ФОТАЛЕТАПІСУ «ЛіМа»

**Восенню 1959 года ў выдавецтве «Беларусь» я спаткалася з Уладзімірам Мікалаевічам Дубоўкам, і мы доўга гаварылі з ім. Размова прывяла да тых гадоў, калі наша літаратура набірала сілу, калі заяўлялі ў ёй пра сябе яркія асобы, калі галасы нашых паэтаў пачыналі зліваццa з галасамі братніх літаратур. Уладзімір Мікалаевіч сказаў, што дома ў яго, у Маскве, ёсць фатаграфія тых часоў, на якой пісьменнікі — вартыя і вялікай увагі, і пашаны. Ён абяцаў мне прыслаць гэту фатаграфію. Як чалавек інтэлігентны, верны свайму слову, ён і прыслаў мне яе.**

**Ледзь не трыццаць гадоў праляжала гэта фатаграфія ў маім архіве, і кожны раз, беручы яе ў рукі, мяне пачынала мучыць сумленне, што яна так і ляжыць, дасюль не пабачыўшы свету.**

**У лісце, датаваным 6 кастрычніка 1959 года, Уладзімір Мікалаевіч пісаў:**

**«Як абяцаў Вам, пасылаю фота групы беларускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў (Харкаў, 1925 год).**

***Першы, ніжэйшы рад (злева направа):* А. Вольны (Ажгірэй), П. Г. Тычына, М. Чарот, Пятро Панч, кутні — я.**

**Верхні рад. Першы злева (забыта прозвішча), другі — Дніпроўскі».**

**Думаю, што гэта фатаграфія будзе цікавай для чытачоў «ЛіМа» і як памяць пра нашых выдатных паэтаў, і як сведчанне іх сяброўства з паэтамі Украіны.**

**Лідзія АРАБЕЙ.**





**Другі здымак — партрэт У. Дубоўкі — рэдакцыі перадала Я. Пфляўмбаўм, якой ён падораны. На адваротным баку фота пазначана дата: 14.II.1961 г.**

рываецца значэнне слова сродкамі гэтай жа мовы (у дадзеным выпадку — беларускай). Між іншым, у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 3, с. 194) **мястэчка** вызначаецца як «Вялікае сяло з некаторымі прыкметамі горада; пасёлак гарадскога тыпу». «Пасёлак гарадскога тыпу» — гэта зусім не **гарадскі пасёлак,** як гэта здалося Стому.

Стома настойвае на неабходнасці падрыхтоўкі дадатку да «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» і сваю заметку заканчвае словамі: «Хацелася б таксама, каб пры складанні гэтага дапаўнення аўтары больш зважалі на традыцыі нашага пісьменства і жывую беларускую мову». Аўтар нататкі не ведае, што «традыцыі пісьменства» звычайна адлюстроўваюцца ў спецыяльных гістарычных слоўніках, не ведае ён і таго, што «Гістарычны слоўнік беларускай мовы» таксама выдаецца ў нас, ужо выйшла ў свет 8 выпускаў, а ўсяго іх будзе звыш трыццаці. Аўтар, які бярэцца павучаць беларускіх лексікографаў, мог бы ведаць, што «жывая беларуская мова» (відаць, маецца на ўвазе дыялектная мова, хоць і літаратурная беларуская мова пакуль што не лічыцца мёртвай) адлюстроўваецца ў спецыяльных дыялектных слоўніках. Па лексіцы беларускіх народных гаворак за апошнія дзесяцігоддзі выдадзена многа слоўнікаў, зборнікаў і тэматычных падборак, у гэтых адносінах беларускія дыялектолагі выйшлі на першае месца ў славянскім свеце. Самым значным з іх з'яўляецца «Слоўнік беларускіх гаворак паўночназаходняй Беларусі і яе пагранічча» (Мінск, 1979—1986, тт. 1—5). Гэты слоўнік ахоплівае і тэрыторыю Гродзеншчыны, у ім, між іншым, і змешчаны мясцовыя дыялектныя формы **арганы** і **арганістый** (т. 1, с. 101).

Што ж датычыцца стварэння аднаго слоўніка, які б уключаў і лексіку сучаснай літаратурнай мовы, і словы народных гаворак, і слоўны запас старажытнай пісьменнасці, як гэта прапануе Стома, дык пакуль што такі слоўнік ёсць толькі па сербахарвацкай мове, але ствараўся ён на працягу 110 гадоў.

На наіўных разважаннях і прапановах студэнта Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі М. Стомы можна было б і не спыняцца, калі б яны не выклікалі адпаведны рэзананс у друку. Так, С. Дубавец у артыкуле «Інструмент складаны, тонкі» («Літаратура і мастацтва» ад 2. X. 1987) нататку Стомы ўспрыняў як праграму моўнай перабудовы і сам унёс прапановы і патрабаванні, цалкам сугучныя з меркаваннямі Стомы.

В. Скараход сваю нататку «Пачуў ад суседа...» («Літаратура і мастацтва» ад 2. X. 1987) прысвяціў толькі аднаму слову **атрам.** Нататка Скарахода — гэта хутчэй за ўсё вясёлы лінгвістычны анекдот, які паказвае, што і матэрыялам мовазнаўства можна рассмяшыць чытачоў. Першы слупок нататкі поўнасцю прысвечаны апісанню падарожжа аўтара на радзіму, яго эмацыянальна-лірычным перажываннем пры набліжэнні да роднай вёскі, «ад якой наяве засталося толькі дзевяць хат, восем пустых, а адна — з гаспадарамі». Схадзіўшы на другі дзень у лес за грыбамі, але нічога не знайшоўшы там, падарожнік вярнуўся ў вёску і ўбачыў, як прыезджыя людзі на чале з Цімахвеем Сушко раскідваюць старую суседскую хату. Тут ён і пачуў ад Цімахвея слова **атрам.** «Яно мне дужа спадабалася, — успамінае аўтар, — і я некалькі разоў паўтараў яго і ад прыемнасці гучання, і каб адкласці ў памяці». Але здарылася бяда — пакуль аўтар вярнуўся ў Мінск, ён забыўся тое Цімахвеева слова. На шчасце, выручыў старэйшы сын: ён параіў напісаць у вёску пісьмо Цімахвею, каб прыслаў тое слова. Бацька так і зрабіў. Але назаўтра слова само прыйшло на памяць. Бацька з сынам адразу ж пачалі шукаць гэта слова ў слоўніку і ... не знайшлі. І тады ім прыйшла думка перадаць сваю знаходку прафесару Жураўскаму з яго пабрацімамі па працы. Дзіўны і спосаб перадачы сваёй знаходкі прафесару Жураўскаму — праз газету, хоць зрабіць гэта можна было значна прасцей.

Між тым прафесару Жураўскаму і яго пабрацімам па працы «знаходка» Скарахода даўно добра вядома. Яны ведаюць, што нямецкае слова Tramm распаўсюдзілася ў заходнеславянскіх мовах і праз польскую мову пранікла ў беларускія гаворкі. Гэта слова сустракаецца ўжо ў беларускіх пісьмовых помніках XVII ст.: «римляне ...набравши трамов, поставляли их при золотой форте и запалили» (Беларускі пераклад «Хронікі ўсяго свету» М. Бельскага пачатку XVII ст.); «золото было напреднейшое, з которого бляхами побил дом и трамы его и подвои и стены и двери» (Беларускі пераклад Бібліі пачатку XVII ст.); «Слемя: Бръно, трамъ, бервяно» (Слоўнік П. Бярынды па куцеінскаму выданню 1653 г.).

**В. Скараходу, як і М. Стому, можна параіць час ад часу чытаць творы беларускай мастацкай літаратуры, і тады б яны зразумелі многія моўныя факты самастойна. У мастацкіх творах аб мінулым беларускай вёскі трапляюцца словы ТРАМ і ТРАМА: «Пад трамай віселі кажухі, світкі, жаночыя вопраткі і дзве пары новых ботаў» (З. Бядуля); «Радкі елак былі паўтыканы ў траму і бэлькі» (Ц. Гартны); «Ён заўважыў: за трамам пылела праз доўгія ўжо гады колькі кніг» (К. Чорны); «Хата ў яго даўнейшая: упоперак бэлек яшчэ адна бэлька палажана — трам» (*Я. Брыль*). У *колькасных* адносінах у мастацкай літаратуры пераважае варыянт ТРАМА, таму гэты варыянт і прыводзіцца ва ўсіх слоўніках беларускай мовы. Слова ТРАМА змешчана ў «Руска-беларускім слоўніку» 1953 г. як беларускі адпаведнік рускіх слоў МАТИЦА (с. 249) і ПРОГОН (с. 527), у «Беларуска-рускім слоўніку» 1962 г. (с. 922), у двухтомным «Руска-беларускім слоўніку» 1982 г. (т. 1, с. 429, т. 2, с. 255) і ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 5, кн. 1, с. 506). Гэтае ж слова ў варыянтах ТРАМ, ТРАМА зафіксавана ў публікацыі Т. Ф. Сцяшковіч «Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці» (Мінск, 1972, с. 500), варыянты ТРАМ, ТРАМА, ТРАН змешчаны ў «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (т. 5, с. 114), ТРАМ — у зборніку «Лексика Полесья» (М., 1968, с. 155), ТРАМ, ТРАМА — у «Тураўскім слоўніку» (т. 5, с. 150—151). У гэтым апошнім слоўніку складальнікі прыводзяць і цікавую этнаграфічную дэталь, звязаную з трамам: «Ускладванне ТРАМА пры будаўніцтве хаты заўсёды адбывалася як пэўны рытуал і завяршалася пачастункам усіх яго ўдзельнікаў». Гэта ілюструецца словамі інфарманта: «Як цягнуць этого трама, то обматаюць світку да поесом подпаражуць, такім поесом красным, булі такіе. Хозяін помоліцца богу, коб ему бог даў добрэ, і цягнуць трама як чоловека. А там жэ буў трам ого! І цягнуць гэтого трама бегуць усе, хто бачыць, помогці. Да бувало, й дзеці бегуць гледзець. А ўжэ его сцягнуць, то выпіўка і закуска». Пачуты В. Скараходам варыянт АТРАМ зафіксаваны ў зборніку «З народнага слоўніка» (Мінск, 1975, с. 133).**

**Загадкавы для В. Скарахода АТРАМ на самай справе ніякай таямніцы ў сабе не заключае. У беларускай дыялектнай мове для аблягчэння вымаўлення ў многіх словах з'яўляецца так званы прыстаўны галосны «о» (не пад націскам «а»): Орша, Амціслаў, *абаранак, альняны, амгла,* амшара, арабіна, арак, аралля, аржа, аржанішча, аржаны, аўторак і інш. (гл. Е. Ф. Карский. Белорусы. Язык белорусского народа. Выпуск 1. Исторический очерк звуков белорусского языка. М., 1955, с. 260—261). Іменна так і здарылася з запазычаннем ТРАМ, дзе развіўся прыстаўны галосны «а» і атрымаўся АТРАМ.**

**У сувязі з гэтым прыходзіцца заўважыць, што дыялектныя формы слоў наогул не прынята змяшчаць у слоўніках літаратурнай мовы (за выключэннем выпадкаў, калі якое-небудзь дыялектнае слова ўжыта ў аўтарскай мове некалькіх пісьменнікаў). Напрыклад, з «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы», выдадзенага ў 1963 г., відаць, што ў народных гаворках Беларусі некаторыя рэаліі абазначаюцца шматлікімі фанетыка-словаўтваральнымі і лексічнымі варыянтамі. Вага ў калодзежы з жураўлём ў беларускіх гаворках мае каля сарака розных назваў: АСВЕР, ВАГ, ВАГА, ВОЧАП, ЖОРАЎ, ЖОРАВЕЛЬ, ЖУРАВЕЛЬ, ЖУРАЎ, ЖАРДЗІНА, ЖЭРДЗЬ, ЖЭРДКА, ЗВОД, КАЛАВАРОТ, КАЛОВЕР, КОВАДЫР, КОВАРАТ, КОВАРАЦЕНЬ, КЛАДЗЬ, КЛАДКА, НАСІЛКА, НАСІЛКІ, НАСІЛІЦЫ, ПЕРАКЛАДЗІНА, ПЕРАСВЕР, ПОЧАП, ПРУГЛО, САЛАМЯНО, СВЕР, СВЕРСНЯ, СВЕРШНЯ і іншыя адзінкавыя назвы (карта № 243).**

І М. Стома, і В. Скараход (на жаль, не толькі яны) лічаць, што ўсе падобныя дыялектныя назвы павінны адлюстроўвацца ў слоўніках беларускай літаратурнай мовы. А журналіст С. Дубавец пераканаы нават, што ідэальным такі слоўнік можа быць толькі тады, калі ён будзе падрыхтаваны адным аўтарам-падзвіжнікам. Можна заўважыць, аднак, што такому падзвіжніку, акрамя многага іншага, абавязкова спатрэбіцца яшчэ і мафусаілаў век.

Чытач сам лёгка можа зразумець і ўсвядоміць, наколькі апраўданыя і рэальныя такія пажаданні і патрабаванні.

**А. ЖУРАЎСКІ,**
**член-карэспандэнт АН БССР.**



 

НА МУЗЫЧНАЙ СЦЭНЕ

# Выпрабаванне на... фантазію

## «ЧАРАДЗЕЙНАЯ ФЛЕЙТА» В. Моцарта ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР

Опера — адзін з самых дзівосных жанраў у музыцы, ды і ў мастацтве наогул. Опера шматгранная па сваёй сутнасці. Гэтым часта абумоўлены і супярэчлівасць яе ўспрымання, і складанасць аналізу. Вядомая ісціна? Так. І ў які ўжо раз гэтая ісціна пацвердзілася пад час І Усесаюзнага фестывалю музычных тэатраў, што адбыўся ў Мінску. Ён прадэманстраваў найбольш цікавыя набыткі опернай сцэны апошняга часу і яшчэ больш выразна выявіў праблемы, звязаныя з жыццём жанру оперы.

Пасля тых фестывальных спектакляў, якія выклікалі эмацыянальныя абмеркаванні, захапленне і спрэчкі, здавалася, што ў нашым тэатры ўсталюецца на нейкі час адноснае зацішша будзённай працы. Бо Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР прымаў гасцей, можна сказаць, «зрабіўся аб'ектам для параўнання» на фоне музычных пастановак розных калектываў краіны. Але апошнія дні снежня зноў прыцягнулі ўвагу да беларускай опернай сцэны, на гэты раз — прэм'ерай!

Моцарт... «Чарадзейная флейта»... Зварот да творчасці геніяльнага кампазітара — усебаковае выпрабаванне: тут недасягальнае і загадкавае, дзівоснае майстэрства, бляск дасканаласці і жывое, блізкае, зразумелае, вабнае гучанне музыкі. Адказнасць тэатра памнажаецца, калі ён ставіць, як на гэты раз, рэдка выконваемую оперу.

**Згадаю, што яе сюжэт напісаны прыяцелем кампазітара — антрэпрэнёрам аднаго з оперных тэатраў Аўстрыі Эмануэлем Шыканэдэрам паводле казкі Віланда «Лулу». Аднак Моцартава «Чарадзейная флейта» — гэта не проста наіўная опера-казка, дзеянне якой напоўнена фантастычнымі пераўтварэннямі, цудамі і мілымі містыфікацыямі. Гэта (як адбывалася ў жыцці і ў музыцы геніяльнага кампазітара) — праз усмешку непаказное, глыбокае, патаемнае спасціжэнне і разуменне высокай і разам з тым звыклай ісціны: адзінства святла і цемры. Гэта пошукі шляху да перамогі Дабра і Святла. Гэта — одум, мара пра магчымасць перамогі мудрасці, імкненне да яе хоць бы ў казцы.**

**Невыпадкова менавіта «Чарадзейную флейту» пазначыў сваёй філасофскай аналітычнай увагай вялікі мысліцель Гегель. У сваёй працы «Эстэтыка», якая не мае аналагу ў эстэтычнай літаратуры па шматграннасці і найшырэйшаму, сур'ёзнаму ахопу мастацкіх з'яў, ён пісаў: «Царства ночы, каралева, сонечнае царства, містэрыі, пасвячэнні, мудрасць, каханне, выпрабаванні, і прытым нейкія агульныя месцы маралі, выдатныя ў сваёй звычайнасці, — усё гэта, пры глыбіні, сардэчнасці і душэўнасці музыкі — пашырае і напаўняе фантазію і саграе сэрца».**

**Такім чынам, ужо нават паводле сюжэта оперы ў дзеянні павінна спалучацца мноства ліній і пластоў. Галоўная магнетычная плынь, якая праціцае ўсё, што адбываецца, гэта сутыкненне двух светаў: цемры (зла і бяздушнасці) і святла (дабра і розуму). Царыца ночы — супраць захавальніка сонечнага дыска Зарастры. Абое на недасягальнай вышыні вяршыцеляў лёсу. Свет цемры дапаўняюць вераломны маўр і каварныя феі. Вобразы прынца Таміны і прынцэсы Паміны надзелены рысамі звычайных людзей, якія апынуліся ў віры бурных падзей і страсцей. Тут асабліва маральнае значэнне мае пераўтварэнне Таміны: спачатку забаўка лёсу, прынц па ходзе дзеяння набывае непарушную волю да перамогі, чэрпаючы яе ў каханні да Паміны.**

**Яшчэ адна сюжэтная лінія, звязаная з вобразам языкатага, абаяльнага балбатуна — птушкалова Папагены, які марыць пра спакойную маласць: пра ежу, піццё, сімпатычную сяброўку...**

**Спыняюся на сюжэтных лініях оперы гэтак падрабязна невыпадкова і ўжо гатова да з'едлівай заўвагі чытача, якому нагналі аскому «рэцэнзіі» — пераказы лібрэта. Але ж згадка аўтарскага сюжэта дапамагае «прачытаць» задуму інтэрпрэтатараў музычнага спектакля.**

Мае ўражанні — пра адзін з першых паказаў «Чарадзейнай флейты» (музычны кіраўнік і дырыжор У. Машэнскі, рэжысёр-пастаноўшчык М. Ізворска-Елізар'ева, мастакі У. Окунеў, І. Прэс). Спектакль прыгожы, спакойны і светлы. Гэта — не філасофская прытча, якая тоіць у сабе глыбокі сэнс. Гэта — свет цудоўнага дзяцінства (дарэчы, спектакль з захапленнем успрымаецца дзятвой у зале). Але ці заўсёды тут пазнаеш Моцарта?

Проціборства Цемры і Святла... У спектаклі ўсе персанажы паводле сюжэта «на сваіх месцах», але тут адбываецца не сутыкненне, хутчэй — спаборніцтва. Прынца Таміну праследуе не пачварны Змей, а бяскрыўдны дракон (нібы з дзіцячай каруселі), не ўспрымаецца як пагроза нападзенне забаўных львянят. Маўр Манастатас, які дамагаецца кахання Паміны, — таксама не страшны, а забаўны. І нават сама Царыца ночы ў спектаклі — жывая помслівая жанчына, а не царыца Цемры.

Не атрымалася сцэнаграфічнае вырашэнне кульмінацыі оперы — бясстрашны паход Таміны і Паміны (якая ўрэшце падзяліла выпрабаванні каханага) праз ваду і полымя пад гукі чарадзейнай флейты. Фактычна не адбыўся, не адчуўся трыумф Святла: проста прыгоды Таміны і Паміны закончыліся, як звычайна ў казках, добра.

Дзеянне адбываецца ў гушчары экзатычных ліян, а не ў пустыннай гарыстай мясцовасці. Раскошу залатога ззяння сваіх купалоў дэманструе палац Зарастры (Зарастра ўзначальвае саюз мудрэйшых). Дык ці ж гэта — храм Мудрасці і Ведаў?

Рэжысура оперы «Чарадзейная флейта» прапануе нам добрапрыстойную казку, а не драму дарослых. Прынамсі, я так і не адшукала ў сцэнічнай казцы глыбокую думку Моцарта. У час спектакля хацелася адысці ад казачнай прыгажосці... да немудрагелістага, простага канцэртнага выканання оперы. Тым больш, што яе музычнае ўвасабленне вартае высокай ухвалы.

**Лічу, сапраўдны моцартаўскі аркестр гучыць пад кіраўніцтвам У. Машэнскага. Гучанне мяккае, з мноствам дынамічных адценняў. Уразілі духавыя — чысцінёй інтанацыі, дакладнасцю. Бездакорныя струнныя. Пачуеш усё — ад шапацення ветрыка да паўнагучча ўзыходзячага сонца!**

**Сапраўдная ўдача — выкананне ролі Папагены А. Кедам, прывабнае сваёй арганічнасцю і абаяльнасцю. Адчуваецца захопленасць спевака — яна ж перадаецца і слухачам. Вельмі выразна спяваў І. Шупеніч (Таміна). Далейшае набыццё сцэнічнага вопыту ўдасканаліць акцёрскае майстэрства маладога саліста.**

**Вобраз мудрага высакароднага жраца Зарастры стварыў Я. Пятроў. Выдатна прагучалі глыбокія, прафундавыя ноты ў ніжнім рэгістры, што прыдала вобразу містычны арэол.**

**Захапіла выкананне найскладанай партыі Царыцы ночы Г. Лукомскай. Асабліва арыя з другой дзеі. Яе голас — нібы бляск маланкі.**

**З вялікай цеплынёй і выразнасцю правяла партыю Паміны Н. Кастэнка. Яна з рэдкай праўдзівасцю раскрывае пачуцці гераіні, смутак, чысціню юнай, закаханай душы. Хочацца адзначыць выдатны прафесіяналізм спявачкі: дакладнасць інтанацыі, яснасць дыкцыі, шчырасць эмоцый.**

У мяне міжволі ўзнікае параўнанне гэтай пастаноўкі са спектаклем «Рэйнскай оперы», які давялося бачыць у Маскве, пад час гастроляў вядомага музычнага тэатра ФРГ. Музычная трактоўка, на маю думку, гэтае параўнанне цалкам вытрымлівае. Прыгадваючы сцэнічнае ўвасабленне «Чарадзейнай флейты» нямецкімі пастаноўшчыкамі, адзначаеш выдатны густ мастацкага афармлення, якое спрыяе раскрыццю галоўнага сэнсу оперы — проціборства Святла і Цемры. Няма ніякай «прыгладжанасці» сутыкнення, адсюль і «гучанне» ў кульмінацыі перамогі, трыумфу, асляпляльнага ззяння Сонца праз цяжкі, **відочны** і для гледача, шлях скрозь ваду і полымя, праз церні да зорак!

...Прэм'ера «Чарадзейнай флейты» — і зноў нялёгкія размовы пра складанасць інтэрпрэтацыі опернага твора. І зноў спрэчкі, сутыкненні эмоцый, думак, меркаванняў. А зрэшты, ці не гэта — сутнасць сапраўднага творчага руху?

**Наталля СЦЕПАНЦОВА.**



Сцэна са спектакля «Чарадзейная флейта»: Паміна — Н. Кастэнка, Таміна — І. Шупеніч.
Фота Ул. КРУКА.

ПРАБЛЕМЫ, МЕРКАВАННІ

# Вы пойдзеце на лекцыю?

## НАТАТКІ МАСТАЦТВАЗНАЎЦЫ

Быў ужо вечар, калі я вярталася з чарговай лекцыі на Мінскім гадзіннікавым заводзе. Выйшла з прахадной, заспяшалася, але тут заўважыла, што мяне даганяе адна са слухачак.

— Вы і праўда лічыце, што мастацтва здольна зрабіць чалавека лепшым? — спытала яна.

Шчыра кажучы, я здзівілася, бо якую б тэму ні чытала, заўсёды стараюся даць адказ менавіта на гэтае пытанне. Вось чаму ў той момант варухнулася трывожнае сумненне: ці вырашыла я сваю задачу ў час лекцыі?

Памаўчаўшы, я адказала, што не магу лічыць інačай, што гэта, пэўна, мая вера, вельмі цесна звязаная з прафесійным абавязкам. Без яе проста не змагу працаваць. Спадарожніца паглядзела на мяне са спачуваннем: цяжкавата, маўляў, табе з тваёй верай!

Я пайшла, адчуваючы патрэбнасць у той засяроджанасці, якую звычайна дае няспешны шпацыр. Што ж, кажу сабе, давай разважаць шчыра, без ілюзій. Ці многа, напрыклад, надаецца ўвагі эстэтыцы ў сярэдняй школе? У тэхнічных ВНУ? Усюды — мінімальна. У той час як прыгожае павінна быць спадарожнікам і саўдзельнікам нашага жыцця. У нас, як нідзе і ніколі, ёсць на гэта магчымасці. Але яны, калі гаварыць шчыра, яшчэ не рэалізаваны.

Так, «прарвацца» да мастацтва памагаюць эстэтычныя веды, для чаго і патрэбны лекцыі па мастацтве. Але, прызнаюся, людзі на іх не так ужо імкнуцца. Толькі, відаць, цыкл «Музеі свету» карыстаўся папулярнасцю. Кожны арганізатар ведае, што заказаць лекцыю — самая лёгкая частка яго дзейнасці. Галоўнае — клопат пра тое, каб людзі прыйшлі. Гаворка — не пра арганізаваныя аўдыторыі, як школа, вучылішча, тэхнікум, дзе экскурсіі або лекцыі праводзяцца ў якасці ўрокаў эстэтычнага выхавання. Шчасце сустрэць калектыў на вытворчасці або ва ўстанове, які сам вырашыў заняцца эстэтычнай адукацыяй.

Ніколі не забуду паездкі на Мінскі авіярамонтны завод. Лекцыі прызначаліся да рабочага дня, у 7.15. Але падалася мне празрыстай гэтая імгла, і моцны мароз быў нейкім вясёлым і лёгкім — гэтак натхняла мяне захопленасць слухачоў.

А вось неяк аднойчы на камвольным камбінаце слухачы ўвогуле не прыйшлі. Ці мо таму, што закончылася змена, а за акном зіхацеў пагодны летні дзень, ці таму, што не адчувалі цікавасці да прапанаванага прадмета? Зрэшты, паспрабую стаць на іх месца. Магчыма, я і сама не пайшла б пасля работы на нейкую лекцыю, калі не ведаю — ці яна цікавая і ці патрэбная мне. Тут, думаю, і ёсць асноўная прычына казусу — недасведчанасць.

Выпадак з камвольным — выключэнне. Але водгалас яго нагадвае пра сябе пастаянна: калі чакаеш на лекцыю чалавек трыста — прыходзіць трыццаць, а замест трыццаці ледзь

ВЫСТАЎКІ

# КАШТОЎНАСЦЬ ДАКУМЕНТА

Леанід Дробаў, доктар мастацтвазнаўства, аўтар шэрагу манаграфій, творчых партрэтаў, артыкулаў у фундаментальных выданнях. Вядомы ў першую чаргу як гісторык выяўленчага мастацтва. Але ж ён яшчэ і мастак. Дарэчы, з жывапісу і пачалася яго творчая дзейнасць. Некаторыя з яго ных работ уваходзяць у анталогію нашага выяўленчага мастацтва.

Выстаўка, што экспанавалася ў памяшканні Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, была прысвечана 60-годдзю з дня нараджэння і 25-годдзю творчай дзейнасці Л. Дробава. На ёй прадстаўлена каля ста, у большасці новых работ — партрэтаў, краявідаў, тэматычных карцін.

Л. Дробаву ўласцівая традыцыйная рэалістычная манера, якая ідзе ад своеасаблівага разумення спадчыны перасоўнікаў. Гэта найбольш яскрава адчуваецца ў тэматычных карцінах, важкае месца сярод якіх займае тэма Вялікай Айчыннай вайны.

Мабыць, няма на Беларусі ніводнага мастака, які так ці інакш не звяртаўся б да падзей і вобразаў ваеннай пары. Але мастакам, асабліва маладога пакалення, усё болей даводзіцца зыходзіць не з дакументальных сведчанняў, а з уласных уяўленняў аб вайне. І не дзіўна, бо прайшло больш за сорак гадоў. Сціраюцца ўспаміны, часам і сам удзельнік ці сведка тых падзей не скажа дакладна, што адбылося з ім самім, што чуў ад іншых, што бачыў, а пра што чытаў. У гэтых абставінах узрастае значэнне кар-

**Як мы паведамлялі, у Маскве 22 студзеня г. г. завяршыў сваю работу VII з'езд мастакоў СССР. У форуме прымала ўдзел і дэлегацыя беларускіх майстроў мастацтва, сярод якіх — старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР, заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі У. СТАЛЬМАШОНАК. Наш карэспандэнт звярнуўся да яго з просьбай падзяліцца ўражаннямі ад з'ездаўскай дыскусіі. Вось што ён сказаў:**

## ЧАС І ПАЛІТРА

# МАСТАЦТВА ПАЧЫНАЕЦЦА З АСОБЫ

— Чатыры дні на з'ездзе ішла вострая гаворка, у час якой абмяркоўваліся пяцігадовая работа мастакоў краіны, далейшыя нашы планы, задачы арганізацыйна - творчай дзейнасці саюза. Ну, а які ж вынік? На першым пленуме новага праўлення Саюза мастакоў краіны былі выбраны старшыня праўлення і першы сакратар, але ўпершыню ў практыцы з'ездаў не быў выбраны сакратарыят праўлення—гэтае важнае пытанне перанесена на больш позні тэрмін. Далей. Так і застаўся незацверджаным Статут СМ СССР. Яго праект нават не быў прадстаўлены для шырокага абмеркавання ў цэнтральным друку (была толькі публікацыя ў «Московском художнике»), а разасланы ў творчыя саюзы. Між тым, літаральна па ўсіх пунктах праекта статута ішлі спрэчкі да апошняга дня работы з'езда. Як фарміраваць саюз, якімі будуць яго ўзаемаадносіны з Мастацкім фондам, Акадэміяй мастацтваў СССР, маладымі мастакамі? Хто можа кіраваць саюзам і на якіх умовах? Якімі быць крытыцы і мастацтвазнаўству і якая іх роля ў творчым працэсе? Як рэарганізаваць выставачную дзейнасць? Словам, вырашэнне гэтых і іншых пытанняў было перанесена на больш позні тэрмін.

Адчувалася, што да з'езда, які чакалі і на які ўскладалі немалыя надзеі, рыхтаваліся як да чарговай дыскусіі. Нездарма ж на перадз'ездаўскай прэс-канферэнцыі кіраўнікі саюза адказвалі журналістам няпэўнымі фразамі: «Гэта скажа з'езд», «Аб гэтым пагаворым пазней»... Стваралася ўражанне разгубленасці, нявыпрацаванасці крытэрыяў і, што самае галоўнае — хоць якой-небудзь праграмы змен ва ўсёй арганізацыйна - творчай структуры Саюза мастакоў.

Вядома, нельга сказаць, што наогул нічога не рабілася. Напрыклад, на некаторых перадз'ездаўскіх пленумах праўлення і на пасяджэннях сакратарыята дэбаты па тым жа статуце ішлі бурныя, асабліва па вызначэнні метаду сацыялістычнага рэалізму. Паняцце гэтае ўсё яшчэ застаецца ў абалонцы павярхоўных і аднабаковых тлумачэнняў, якія ўзніклі некалькі дзесяцігоддзяў назад. Думаю, што задача савецкага мастацтвазнаўства — настойліва імкнуцца да сучаснага разумення праблемы сацрэалізму, абапіраючыся на рэальныя факты ўжо немалога гістарычнага вопыту. Нельга лічыць сацрэалізм нерухомай катэгорыяй, калі ўвесь свет напоўнены складанай і бурнай зменлівасцю і развіццём. Аднак тэарэтычныя дыскусіі па гэтай праблеме часам ператвараліся ў штучныя дымавыя заслоны, за якімі можна было і не гаварыць пра канкрэтныя справы. А чаму б нам не прымусіць наноў заззяць тэрмін «сацыялістычнае мастацтва»? Вядома, у старым Статуце Саюза мастакоў СССР досыць несур'ёзна глядзіцца фармуліроўка пра тое, што сацрэалізм з'яўляецца вышэйшым этапам развіцця сусветнага мастацтва. Так што неабходна тэрмінова выпрацаваць канкрэтную і аб'ектыўную канцэпцыю.

**Ледзь не модай стала сёння пісаць пра крызісныя з'явы ў выяўленчым мастацтве, пра дэфіцыт канструктыўных прапаноў, праграм. Таму ў сваім выступленні на з'ездзе я расказаў пра канкрэтны вопыт нашай, беларускай арганізацыі, якая тварам павярнулася да «глыбінкі» або, як сёння гавораць, да малой радзімы. Што я маю на ўвазе? А той самы «беларускі варыянт», накіраваны на шырокую эстэтызацыю асяроддзя. Чаго тут грахі ўтойваць, мы ж «асталічыліся», усё ў нас адбываецца ў сталіцы, а ў выніку—поўная няўвага да «глыбінкі»! Там жа жывуць людзі, пазбаўленыя магчымасці ўпітваць у сябе мастацкія каштоўнасці. І ў той жа час там ёсць свае помнікі гісторыі і культуры, Вялікай Айчыннай вайны, прыроды, свае бібліятэкі, музеі і клубы... На жаль, сёння мы працуем усё яшчэ разгалінавана: мастакі—асобна, архітэктары—таксама, Фонд культуры—сам па сабе. Наспеў час гэтую бессістэмнасць ліквідаваць. Я расказаў дэлегатам з'езда, што ў Беларусі даўно працуе група архітэктараў і мастакоў, якая распрацоўвае эксперыментальную схему комплекснага архітэктурна-мастацкага пераўтварэння населеных пунктаў. Памятаеце «мазырскі варыянт»? Ідэя сама па сабе—выдатная! Аднак не ўсё атрымалася гладка. Першае, што перашкаджала, дык гэта заказы, якія ішлі самацёкам. Узровень заказаў на мастацкія работы звычайна вызначаўся, ды і цяпер вызначаецца, густам заказчыка, які, як правіла, далёка не ідэальны. Зразумела, што гэта біч для мастацтва. Дык вось, у сённяшняй сітуацыі, калі Мастацкі фонд БССР пераходзіць на поўны гаспадарчы разлік, дагаворы мы прапаноўваем заключаць з выканкомамі, якія ў план будаўніцтва ўключалі б мастацкія работы і прадугледжвалі б забеспячэнне і фінансаванне культурнага будаўніцтва. Гэта ўнясе планавасць у дзейнасць Мастацкага фонду, выключыць самацёк заказаў. Менавіта тут закладзены працэс сацыялістычнай прадпрымальнасці, ключ да асваення і рэалізацыі тых аднаго-двух працэнтаў па каштарысах капітальнага будаўніцтва, якія дазволены вядомай пастановай ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР «Аб мерах па далейшым развіцці выяўленчага мастацтва і ўзмацненні яго ролі ў камуністычным выхаванні працоўных»...**

Некаторыя таварышы могуць спытаць, а ці не адыходжу я ад магістральнай лініі выяўленчага мастацтва? Упэўнены, не! У аснове мастацтва ляжыць аўтарская, асабістая рэалізацыя кожным мастаком сваёй творчай задачы. І ў гэтым—крытэрый яго адносін да жыцця, яго духоўная сутнасць. Яўсей Маісеенка ў сваім выступленні спаслаўся на старажытнагрэчаскага мысліцеля Платона: «Без мяне няма Грэцыі». І сапраўды, у гэтым і ёсць вышыня патрыятызму, у гэтым — неабходнасць Айчыне кожнага чалавека, у тым ліку мастака. Так што фраза «выяўленчае мастацтва сённяшняга дня» будзе гучаць фальшыва, дэмагагічна, калі яно не будзе мець сувязі з той самай «глыбінкай»...

У Андрэя Платонава ёсць словы: «Мы ідзём знізу, дапамажыце нам, верхнія». Хто гэтыя «верхнія»? Калі лічыць, што гэта тэарэтыкі, філосафы, дык іх тэорыі сёння не спрацоўваюць. Дарэчы, у размове аб сацыяльнай справядлівасці некаторыя тэарэтыкі дагаварыліся да таго, што бачаць адзінае выйсце ў тым, каб знайсці новую формулу сацыялізму. Я запярэчыў на з'ездзе тэарэтыкам: маўляў, не тэрмін «сацыялістычны рэалізм» вінаваты, а людзі, якія яго заблакіравалі дэмагогіяй.

Мастацтва належыць народу. Гэта так. Але што атрымліваецца на практыцы? Возьмем, напрыклад, Брэсцкую вобласць. Там у шэрагу калгасаў і саўгасаў пабудаваны магутныя мастацкія цэхі па стварэнні керамічнай пліткі і г. д. Але ж гэта антымастацкія рэчы! Афіцыйная статыстыка гаворыць, што да 90 працэнтаў мастацкіх работ у рэспубліцы сёння выконваецца шабашнікамі. З аднаго боку, гэта значыць, што наша сістэма Мастацкага фонду не спрацоўвае, з другога, праблема ўпіраецца ва ўзровень псіхалогіі кіруючых кадраў. Пытанне вельмі сур'ёзнае. Успомнім, першы Савецкі ўрад быў самым адукаваным у свеце. Толькі такі ўрад мог прыняць у 1918 годзе гістарычны план манументальнай прапаганды. У спіс помнікаў вялікім дзеячам сацыялізму і рэвалюцыі былі ўключаны 66 чалавек, у тым ліку—31 палітычны дзеяч і 35 — дзеячы навукі, культуры, мастацтва, сярод іх мастакі Рублёў, Кіпрэнскі, А. Іванаў, Урубель... А што ж сёння?

У Вышэйшай партыйнай школе нашы мастакі цяпер праводзяць своеасаблівы «лікбез» па пытаннях выяўленчага мастацтва, бо высветлілася, што амаль ніхто з кіраўнікоў прадпрыемстваў, гаспадарак, устаноў не дасведчаны ў мастацтве, не ведае ні нашай сістэмы Саюза мастакоў, ні таго, чым мы займаемся.

Далей. На з'ездзе я гаварыў пра тое, што называецца праблемай «кіраўнікоў і выканаўцаў». Цяжка паверыць, але факт: у Міністэрстве культуры краіны—толькі адзін прадстаўнік творчага саюза з'яўляецца членам калегіі! Упэўнены, што ў «мазгавы цэнтр» павінна ўвайсці як мага больш прадстаўнікоў усіх творчых саюзаў (дарэчы, гэта тычыцца і нашага міністэрства). Яны б вызначалі стратэгічныя задачы развіцця культуры. А то даходзіць часам да неверагоднага. Беларусь — член ААН, член ЮНЕСКА. Але ж каб павезці выстаўку за мяжу, мы павінны прасіць дазволу ў нейкага інспектара Міністэрства культуры СССР. Праўда, на з'ездзе міністр культуры краіны В. Г. Захараў паведаміў мне, што такая інструкцыя ўжо скасавана, што кожнай рэспубліцы дадзена права самастойна рашаць гэтыя пытанні.

VII з'езд мастакоў краіны, у адрозненне ад мінулых, праходзіў у атмасферы галоснасці. Выступленні, асабліва такія, як Д. Скулме, мелі палемічна завостраны, адкрыты, прынцыповы характар. Дэлегаты форуму вельмі занепакоены зніжэннем грамадскага аўтарытэту мастака, недастатковым пранікненнем мастацтва ў народныя масы, і як вынік, мы маем паток «масавага мастацтва», які патрафляе няразвітым густам непрафесійнымі, салоннымі, дылетанцкімі падробкамі. Востра стаяла пытанне ўдасканальвання выставачнай дзейнасці... Заўважу, што ў нас, у Саюзе мастакоў БССР, мы ўсё ж нешта спрабуем рабіць. Намецілася тэндэнцыя да перабудовы экспазіцыйных формаў, шукаем мы шляхі дэмакратызацыі, разнастаім масавую работу на выстаўках і на іх абмеркаваннях. Гэта, дарэчы, пацвердзіла правядзенне такіх выставак, як «Мастакі тэатра, кіно і тэлебачання», «Няміга-17»... На жаль, і ў нас, у рэспубліцы, праблем многа. Вось, напрыклад, лёс запаснікоў: толькі ў Дырэкцыі выставак Мастацкага фонду рэспублікі сёння пыліцца 10 000 твораў!

Прыгадаю зноў выступленне на з'ездзе старшыні праўлення Саюза мастакоў Латвіі Джэмы Скулме. Яна спаслалася на словы акадэміка Д. С. Ліхачова, які гаварыў, што XXI век павінен быць векам гуманітарнага мыслення, інакш яго не будзе ўвогуле. Я ж у сваім выступленні свядома звярнуўся да нашага XX стагоддзя. Спытаў дэлегатаў, ці ведаюць яны, што ЮНЕСКА назвала 1988—1998 гады «Дзесяцігодкай культуры» пад дэвізам «Культура неабходна асобе»? Не, пра гэта не ведалі. І тут няма нічога дзіўнага: наш друк запоўнены ў асноўным двума тэрмінамі — «благополучие» і «благосостояние». А дзе ж «благоразумие», «благовоспитанность», «благородство души человеческой», «благородство общества»? Сёння для ўсіх нас галоўнымі павінны стаць менавіта пытанні маральнасці, гуманізму. А яны неаддзельныя ад пытанняў мастацтва. Бо мастацтва—не забава, не спосаб рабіць грошы, гэта тая сфера дзейнасці чалавека, якая нясе ў будучыню маральныя каштоўнасці. А іх нам вельмі нестае сёння...

Вядома, крыўдна, што многае на з'ездзе, як кажуць, пайшло «ў трубу». Але, тым не менш, ніхто за нас наш поезд цягнуць не будзе. Праца з поўнай аддачай — толькі тады мы зможам узняцца на ўзровень задач перабудовы. Поўная ўзаемадапамога і ўзаемапавага — толькі тады мы зможам выбрацца з наезджанай каляіны. Пакуль жа бурныя дэбаты пра мастацтва больш важныя, аказваецца, чым сам факт мастацтва. Мы разважаем пра адзінства, а на справе—і страта сувязей, і эгаістычнасць групавых інтарэсаў. А толькі ж з Таленту, з Асобы пачынаецца мастацтва.

---

**У**ЗЯЦЦА за пяро мяне змусіў матэрыял «Маладыя трымаюць экзамен», апублікаваны ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» ў снежні мінулага года. Апавядалася ў ім пра вечар, што адбыўся 10 снежня па ініцыятыве і пры чынным удзеле Таварыства маладых літаратараў.

Лагічна памеркаваць, што гаворка ў ім павінна весціся пра творчасць маладых паэтаў, празаікаў і крытыкаў, з якой яны выступілі на вечары. Патрэба ў гэтым тым больш актуальная, калі ўлічыць, што пра створанае «Тутэйшымі» (гэта другая назва таварыства) у нас па сутнасці ніхто не пісаў. І ці трэба даводзіць, як патрэбна маладому творцу на пачатку дарогі ў літаратуру ўзважанае крытычнае слова старэйшых таварышаў.

Звернемся да артыкула, каб пераканацца, наколькі аб'ектыўны і справядлівы аўтар у ацэнцы вечара, у стаўленні да Таварыства маладых, якое ён прызнае дзіцём перабудовы, а, значыць, міжволі звязвае з ім будучыню нашай літаратуры. Дык якое ж у яго стаўленне да гэтай будучыні, да таго, што нарадзілася ў выніку перабудовы, галоснасці і дэмакратызацыі нашага жыцця?..

Аб'яднанне маладых узнікла пры Саюзе пісьменнікаў леташняй вясной. Мінула менш года — і вось ужо творчая справаздача ў Доме літаратара! Магло ўзнікнуць сумненне: ці не ранавата? Кажучы па шчырасці, рызыка праваліцца была вельмі істотнай і рэальнай. Уявім, вялікая зала, на якую яны замахнуліся, аказваецца пустой. Альбо такое: народ, расчараваўшыся, пакідае тую залу дачасна...

Кажу не проста так, а зыходзячы з рэальнага адчування становішча, бо даводзілася быць сведкам і першага, і другога. Таму, каб унікнуць прыкрых нечаканасцей, супрацоўнікі Дома літаратара часамі загадзя плануюць збор слухачоў-гледачоў, якіх у такіх выпадках прыводзяць сюды «пад канвоем», і яны змушаны адбываць павіннасць. Але, дальбог жа, не вельмі хораша выглядаюць такія «аматары» беларускай літаратуры, якія з абыякавай, а то і пагардлівай паставай «созерцают» тое, што дзеецца на сцэне.

Да крыўднага мала, вельмі мала ходзяць на вечары сваіх калег па творчай працы і самі пісьменнікі.

На сустрэчу з маладымі прыйшлі як аматары (у пераважна большасці студэнцкая моладзь), так і прафесійныя пісьменнікі розных узростаў. Пра прымус і арганізаванасць гаварыць не даводзіцца там, дзе народ, што называецца, валам валіў, не маючы магчымасці сесці, запаўняў праходы ў зале. І, за вельмі рэдкім выключэннем, усе заставаліся на месцах да канца, хоць вечар цягнуўся досыць доўга і меў два аддзяленні. Другое, дарэчы, таксама было літаратурным, а не канцэртным, чым, як вядома, вельмі часта публіка заваблівaецца і «прывязваецца» да сваіх месцаў.

Дык у чым жа прычына такой зацікаўленасці?

**На гэта, на жаль, мы не знойдзем адказу ў артыкуле «Маладыя трымаюць экзамен». Аўтар нічога не сказаў пра гэты істотны момант, зрабіўшы выгляд, што нічога вартага ўвагі не адбылося. Выходзіць, нібыта ўсе вечары, прысвечаныя беларускай літаратуры, адбываюцца пры паўнюткіх залах?! Ці яго мала турбуе, хто і як цікавіцца нашай літаратурай і што трэба рабіць дзеля яе большай папулярызацыі? Аднак, мяркую, над гэтым варта задумацца адміністрацыі і арганізатарам вечароў у Доме літаратара. Мае значэнне, мабыць, каго і на які вечар запрашаць, як абвяшчаць зацікаўленых асоб, чые вечары і ў які час праводзіць і, галоўнае, ЯК іх праводзіць, каб людзям не было сумна, каб не ўзнікала невідочная сцяна адчужанасці паміж сцэнай і залай.**

**Менавіта імкненнем наблізіць слухача-гледача да сябе, ажывіць рэпертуар і вызначаўся згаданы вечар. Аднак гэта чамусь і не спадабалася аўтару нататак: «...літаратурны вечар,—зазначае ён,—падменьваўся чымсьці іншым — нечым накшталт капусніка, шоу, мітынгу... Карацей кажучы, наглядалася яўнае**

---

# ЗРОБЛЕНА ЗА ДВА ГАДЫ

**Адбылося справаздачна-выбарчае пасяджэнне секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей СП БССР. З дакладам аб рабоце секцыі за два апошнія гады выступіў В. Рагойша, старшыня бюро секцыі. Дакладчык адзначыў ажыўленне перакладчыцка-выдавецкай дзейнасці ў апошнія гады, вялікую ролю ў гэтым працэсе такіх выдавецкіх серый, як «Паэзія народаў свету», «Паэзія народаў СССР», у якіх былі выдадзены творы О. Жупанчыча, В. Незвала, К. Хетагурава, А. Шасцінскага, Г. Віеру, А. Малдоніса і іншых. Як несумненны здабытак адзначыў В. Рагойша і выданне персанальных кніг перакладчыка. Такія кнігі выйшлі ў Р. Барадуліна, В. Сёмухі, Х. Жычкі. Вялікае значэнне, на думку дакладчыка, мае выданне твораў беларускай класікі ў перакладах на рускую мову, якое распачало выдавецтва «Мастацкая літаратура». Адзначалася вялікая роля ў папулярызацыі перакладной літаратуры альманахаў «Далягляды», «Братэрства», «Ветразь», а таксама штотыднёвіка «ЛіМ» і часопіса «Полымя». Вялікае значэнне для ажыўлення літаратурных узаемасувязей і перакладчыцкай дзейнасці ў рэспубліцы мела правядзенне ў мінулым годзе міжнароднага семінара перакладчыкаў з беларускай мовы, а таксама рэалізацыя ідэі выдання «Скарбаў сусветнай літаратуры» і шырокае абмеркаванне яго плана-праспекта.**

**На пасяджэнні выступілі сакратар СП БССР В. Зуёнак, Э. Агняцвет, П. Бітэль, М. Дубянецкі, В. Ніківаровіч, С. Панізнік, У. Папковіч, Я. Семяжон, М. Татур, С. Шупа, К. Шэрман, А. Яскевіч. Быў выбраны новы склад бюро секцыі, старшынёй абраны В. Рагойша.**

**НАШ КАР.**

«змяшэнне жанраў», а ў мастацтве, як вядома, адчуванне жанру — важная ўмова поспеху».

Хочацца спытаць, што ж лічыць поспехам: ці аднастайнае чытанне вершаў у амаль што пустых залах, калі прысутныя вяла рэагуюць на пачутае, ці той малады імпэт, што панаваў на вечары «Тутэйшых», дзе зала і сцэна, за выключэннем асобных момантаў, уяўлялі адно цэлае?!

Відавочна, што традыцыйныя формы прапаганды, якія эксплуатаваліся на працягу дзесяцігоддзяў, даўно людзям апрыкрылі і набілі аскоміну. Ды і самі нашы паэты не заўсёды здольны раскрыць вартасці сваёй творчасці. У многіх ёсць выдатныя творы, але іх творцы ці то самі не адчуваюць, ці то не ўмеюць, ці то не хочуць праз унутраную душэўную аддачу данесці да слухача эмацыянальны сэнс — чытаюць невыразна, хутчэй не чытаюць, а спехам глытаюць тыя вершы. Пры такім выкананні слухач не толькі не атрымлівае эстэтычнай насалоды і не ўзрушваецца, а нават не можа добра ўцяміць, пра што быў той пачуты верш.

Маладыя трымаліся на сцэне годнасна, не было ў іхніх паставах няёмкасці, паныласці і прыгнечанасці — самой манерай выканання яны нібы сцвярджалі: мы — дзеці свайго народа, носьбіты яго спрадвечнага слова, яго лепшых традыцый, і таму нам няма патрэбы згінаць у паняверцы свае плечы, саромецца і прыніжацца. Адсюль пачуццё раскаванасці, намаганне непасрэднага кантакту з залай, імкненне праводзіць вечар нетрадыцыйна, уключаць моманты, для сяго-таго, як бачым, выпадковыя і непрыдатныя, але на самай справе вельмі істотныя і арганічныя ў кантэксце літаратурна-грамадскай праграмы, ажыццяўляць якую ўзяліся «Тутэйшыя».

Зробім, аднак жа, істотнае ўдакладненне: маладыя не з'яўляюцца трымальнікамі ісціны ў апошняй інстанцыі, яны, што называецца, толькі абмацваюць грунт і становяцца на ногі. І ў іх праграме, і ў іх творчасці, і ў правядзенні таго ж вечара было такое, што можа выклікаць пярэчанні і абудзіць спрэчку. Ды палеміка павінна быць канструктыўнай, весціся доказна і памяркоўна, бо інакш яна не толькі не паспрыяе ўраўнаважанню пазіцый маладых, але падштурхне іх на крайнасці.

**Сказанае датычыць не толькі Таварыства маладых літаратараў, але і ўвогуле нашай моладзі, якая ўсё больш пазбаўляецца пасіўнасці, праяў манкуртызму, што досыць шырока панавалі і, на жаль, усё яшчэ пануюць у яе асяроддзі, гуртуецца ў патрыятычныя суполкі і выходзіць на шлях свядомай грамадскай дзейнасці.**

**У час падтрымаць жывыя парасткі, даць магчымасць ім акрыяць і ўскаласіцца, дбайнай рукой павырываць пустазелле — ці ж не ў гэтым заключаецца грамадзянскі абавязак тых, хто так ці інакш асэнсоўвае праблемы сучаснай моладзі ў кантэксце змен, што адбываюцца ў нашай краіне?**

**Відавочнай несправядлівасцю, як і дэмагогіяй, фальшам і хлуснёй моладзь не пераканаеш і не перацягнеш на свой бок — наадварот, адпрэчыш. Каб табе паверылі, патрэбна логіка ўзважаных і пераканаўчых доказаў. З такіх меркаванняў і ацэньваем матэрыял «Маладыя трымаюць экзамен».**

Аўтар дае пералік усяго, што «засмучала і бянтэжыла прысутных». Паводле яго трактоўкі выходзіць, што зала адмоўна ўспрымала выступленні «Тутэйшых», і таму даводзіцца толькі здзіўляцца, як у такой узаемаадчужанай атмасферы адны здолелі выступаць, а другія трываць тое, што ім яўна не імпанавала, з чым яны рашуча не пагаджаліся. Хіба такое магчыма? Ці былі мы сведкамі рэдкага ўнікальнага факта ўзаемапаразумення на працягу некалькіх гадзін?

Як ацэньвае аўтар «ЛіМа» некаторыя моманты вечара?

Выступілі на вечары дзеткі. Тут бы і парадавацца, як хораша прагучала беларускае мастацкае слова ў іхніх вуснах. Ды не, не радуе, а раздражняе сам факт прысутнасці дзяцей з беларускага садка на вечары. «Толькі ж,— усклікае ён,—пры чым тут яны, гэтыя дзеткі? Навошта і хто прымусіў іх спехам развучваць і чытаць тут не надта выразныя, выпадковыя вершыкі?»

Але чаму спехам, чаму выпадковыя і чаму прымусіў? Ці мо аўтар разумее выхаванне і навучанне як нейкую дзіцячую дэмакратыю і самакіраванне, паводле чаго дзеці самі вырашаюць, што ім вучыць, дзе і перад кім выступаць?!

Найбольшае недаўменне аўтара (а не залы, як сцвярджае ён) выклікала тое, «што адзін белагаловы хлопчык быў пакінуты на сцэне і пасаджаны ў прэзідыум». Гэта ж трэба такое, прэзідыум і, раптам... маленькі белагаловы хлопчык! «...якая роля адводзілася хлопчыку, так і засталося невядома».

Пры асэнсаванні другога факта, факта выканання на вечары верша М. Багдановіча, крытычнасці ў аўтара не паменшала. Тонам строгага экзаменатара ён патрабуе ад «Тутэйшых» адказаць: «Які сэнс укладвалі яны ў радкі верша М. Багдановіча, не пытаючыся ў яго (у верша ці ў М. Багдановіча?—Я. Л.) дазволу?» Во як: адказвайце— і ўсё! І адкуль гэта раптам узялося, што трэба пытаць у класікаў дазволу на выкананне іх твораў?! Іх спадчына на тое і з'яўляецца духоўным нацыянальным скарбам, каб ім мог карыстацца кожны, хто мае ў гэтым патрэбу.

Кінуты «Тутэйшым» папрок і за тое, што яны праігнаравалі «магчымасць дыялога з пісьменнікамі розных пакаленняў, якіх нямала было ў зале». Што тут маецца на ўвазе?

На гэтым я мог бы і скончыць свае нататкі, але, дзеля аб'ектыўнасці, хачу дабавіць, што ў асобных месцах аўтар карэспандэнцыі мае рацыю. Тут жа аспрэчвалася яго тэза наконт таго, маюць ці не маладыя права выконваць той ці іншы твор класікаў, у прыватнасці, твор высокага грамадзянскага і эмацыянальнага напружання, славутую багдановічаўскую «Пагоню». Прызнаючы неад'емным такое права, цалкам пагаджаюся з заўвагай аўтара наконт неправамернасці замены ў гэтым класічным вершы слова «літоўскую» на «крывіцкую» — вось гэтага рабіць маладым, ды і ўвогуле нікому не дазволена.

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# ЭКЗАМЕНАТАРЫ, БУДЗЕМ СПРАВЯДЛІВЫМІ!

Размовы на вечары пра «залатыя вякі» ўяўляюцца мне досыць схаластычнымі і пазбаўленымі ведання канкрэтных гістарычных фактаў, глыбокага разумення заканамернасцей развіцця грамадскіх працэсаў. Калі глядзець праўдзе ў вочы, то трэба прызнаць, што гэтых «залатых» вякоў не было і, мабыць, ніколі не будзе. І не пра іх нам сёння трэба марыць, а імкнуцца цвяроза разабрацца ў тых рэальных супярэчнасцях, якія заўсёды перажывала і цяпер перажывае наша нацыя ў сваім нялёгкім развіцці.

Што тычыць вымаўлення мяккага «л» у словах тыпу «глёбус», «плятформа», «кляса», то я таксама не з'яўляюся прыхільнікам, кажучы словамі аўтара артыкула, такой рэанімацыі. Бо гэтыя «глёбусы» — усё ж не прыкметы «шчырай» беларускасці, а сведчанне ўплываў польскай мовы, якія, дарэчы, і па сёння трывала бытуюць у некаторых нашых паўночна-заходніх гаворках. Але сёй-той з маладых, мабыць, думае інача і таму з падкрэсленай зацятасцю ўжывае адзначаныя асаблівасці, лічачы, што ў іх арганічна ўвасабляецца спрадвечны дух роднай мовы. Іх жа апаненты — на ўвазе, зразумела, маецца не толькі «наш кар.» — з няменшай зацятасцю выступаюць супраць гэтага, нібыта клапоцячыся пра чысціню беларускай мовы.

Вось такія мае меркаванні наконт артыкула «Маладыя трымаюць экзамен» (па-беларуску, дарэчы, правільней будзе здаюць, бо трымаць экзамен — відавочная калька з рускай мовы).

Аўтар, верагодна, не пагодзіцца са сказаным тут. Што ж, у яго ёсць магчымасць паспрачацца, ды я зусім і не прэтэндую на трымальніка ісціны ў апошняй інстанцыі. Проста выказаўся як адзін з тых, хто ў той снежаньскі вечар апынуўся ў зале Дома літаратара, шчыра радаваўся разам з усімі поспехамі «Тутэйшых» і засмучаўся іх пралікамі. Так, вершы адной паэткі асабіста мне падаліся рацыяналістычна-халоднымі, эмацыянальна засушанымі, некаторых жа іншых — па-мастацку кволымі. Разам з усімі я быў узрушаны ўрыўкам з аповесці таленавітага празаіка У. Федарэнкі і перажываў за У. Сцяпана, які зацягнуў чытанне ўвогуле цікавага, але абсалютна не дастасаванага для чытання са сцэны апавядання. Але не будзем забывацца, што перад намі моладзь, у якой, як кажуць, усё яшчэ наперадзе. Таму і не варта ўзводзіць асобныя пралікі ў ранг чагосьці такога, што вызначае сутнасць Таварыства маладых літаратараў. Тым больш, зразумела, недаравальна прыпісваць маладым тое, чаго ў іх няма.

Нататка пра вечар маладых называлася, як я ўжо нагадваў, «Маладыя трымаюць экзамен». Таму свае развагі і канчаю пажаданнем на будучае: экзаменатары, будзьце справядлівымі!

Заклікаю, а самога апаноўвае роспач: ці будзем?..

Яўген **ЛЕЦКА**,
**член камісіі па рабоце з маладымі СП БССР.**

• • •

**АД РЭДАКЦЫІ. Ліст Яўгена Лецкі—не адзіны водгук на заметку «Маладыя трымаюць экзамен». Заявілі «пратэст», у пісьмовым выглядзе, прадстаўнікі аб'яднання «Тутэйшыя». Прыслалі лісты літаратуразнавец, выкладчык Гродзенскага універсітэта А. Пяткевіч, археолаг, супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР М. Крывальцэвіч, інжынер ВА «Інтэграл» С. Дычок, мастак Г. Лойка. Адгукнуліся як тыя, хто прысутнічаў на вечары і мог меркаваць аб ім па асабістым уражанні (урач А. Быкава, фізік М. Саскевіч, студэнт Ю. Лаўрык), так і нашы іншагародня чытачы, якія на літаратурным вечары не прысутнічалі і толькі чыталі і чулі пра яго (І. Карнач і А. Крачкоўская з Гродна, Г. Шаўцоў са Слуцка і інш.). Рэдакцыя не лічыць, што ацаніла вечар маладых найлепшым чынам (ці магчымыя ўвогуле такія ідэальныя ацэнкі, асабліва калі яны выказваюцца ў форме газетнай інфармацыі!) і падзяляе асноўны пафас, асноўныя моманты артыкула Я. Лецкі, прымае таксама некаторыя меркаванні, выказаныя ў іншых лістах. Але многае ў іх—і па тоне, і па сутнасці,—мякка кажучы, бянтэжыць, наводзіць на сумны роздум. Некаторыя з чытачоў, напрыклад, заўважылі ўсе да адной карэктарскія памылкі («с» замест «з», слова «тутэйшыя» з малой літары), але ў сваім святым абурэнні чамусьці не заўважылі такую «дробязь», як станоўчую, нават высокую ацэнку газетай творчасці маладых, творчай часткі вечара («І знаёмства адбылося. Яно было сапраўды цікавае...» і г. д.). Яшчэ адзін характэрны для многіх водгукаў штрых—аўтары іх у адзін голас грозна пытаюцца-дапытваюцца ў газеты: хто аўтар нататкі!! Хто гэта схаваўся за подпісам «наш кар.»!! Падаць, маўляў, яго сюды, мы з ім разбяромся! На галаву нашага беднага карэспандэнта сыплюцца, мала сказаць, моцныя слоўцы і выразы—словы абразлівыя, грубая лаянка (апошняя ў адным, праўда, ананімным лісце), палітычныя абвінавачванні.**

**Паспрабуем даць некаторыя, можа, неабходныя тлумачэнні, унесці, як кажуць, яснасць. Ну хаця б наконт гэтага самага подпісу «наш кар». Па-першае, чаму гэтая звычайная для нашага друку, у тым ліку і для «ЛіМа», для кожнага амаль яго нумара, форма подпісу выклікала такую яўна нездаровую цікавасць, такую пільную ўвагу! Па-другое, няўжо справа не ў тым, што і як гаворыцца, а ў тым, хто гаворыць! Але ж гэта тады ўжо размова не па сутнасці, тады ўжо падмяняецца прадмет спрэчкі.**

**Падмена... Так, іменна да гэтага прыёму не-не ды і звяртаюцца аўтары некаторых лістоў. І яшчэ—да перакручвання, свядомага або несвядомага скажэння той або іншай заўвагі лімаўскага аўтара. Яго ацэнку вечара як «мерапрыемства», яго выказванні пра асобныя перыпетыі сустрэчы нашы чытачы блытаюць—галоўная падмена—з ацэнкай твораў маладых, з прынцыповымі адносінамі да іх творчасці, іх грамадскай працы. Карэспандэнт выказаў сумненне, ці абавязкова было ўключаць у праграму вечара з'яўленне на сцэне дзяцей (вечар жа літаратурны, праграма і без таго вялікая), а яму кажуць: не любіш дзяцей, пра будучыню не клапоцішся. Паколькі ініцыятары вечара прапанавалі зале ўставанне і спяванне «Пагоні», аўтар заметкі спрабуе ўдакладніць: «Верш «Пагоня»—гэта гімн маладых, ці што!»; гэтак далікатна, не націскаючы, не ацэньваючы, пытае ўслых: «Ці мела прамое дачыненне да літаратурнага вечара зачытванне са сцэны адозвы наконт «вальнага сойма»!; у тым жа, не ў катэгарычным зусім, не ў асуджальным, а ў запытальным тоне ўдакладняе сцвярджэнне наконт «залатых вякоў»,—а чытачы папракаюць яго, аўтара заметкі, у недахопе патрыятызму, у неразуменні зместу верша Багдановіча, у тым, што «наш кар.» (хоць ён і ўзяў слова «палітызаваць» у двукоссе) адмаўляе маладым у праве быць патрыётамі, грамадзянамі, сацыяльна актыўнымі людзьмі і г. д. А Аляксей Пяткевіч, хоць сам на вечары і не прысутнічаў, абвінавачвае аўтара заметкі ў падазронасці да маладых і іхняга выступлення, у нейкіх «намёках, праўда, асцярожных», у імкненні «шукаць скрыты сэнс» і да т. п.**

**Тут мы хацелі б зрабіць адно ўдакладненне: калі аўтар заметкі нагадаў гісторыю ўзнікнення верша «Пагоня», прывёў аўтограф самога Багдановіча, то гэтым самым ён хацеў толькі падкрэсліць, што бяздумнае прыцягванне за вушы мінулага—не лепшы спосаб вырашэння надзённых праблем. І яшчэ адно ўдакладненне. Карэспандэнт «ЛіМа» меў неасцярожнасць заўважыць, што на вечары ігнаравалася «магчымасць дыялогу з пісьменнікамі розных пакаленняў». Заўвага гэтая таксама выклікала дружнае абурэнне ў чытачоў. Чаму! Не зусім зразумела. Праўда, некаторыя чытачы, у прыватнасці, Г. Лойка, выказаліся ў тым духу, што, маўляў, маладым ніякі дыялог не патрэбен, тым больш з рознымі «прыкарытнымі» (ад слова «карыта»). Ды гэта ўжо другая размова...**

**Што датычыць заклікy Яўгена Лецкі быць справядлівымі ў ацэнках, то мы тут згодны, толькі з невялічкай агаворкай, справядлівасць у дадзеным выпадку—гэта не кампліментаршчына, гэта—уважлівыя, чулыя, але падзелавому прынцыповыя адносіны.**

## ПЕРАКЛАДЫ

Эрых ФРОМ

# Мастацтва любові

**Эрых Фром (1900—1980)—вядомы амерыканскі псіхолаг, філосаф, сацыёлаг, чыё імя пакуль што вядома ў нашай краіне толькі вузкаму колу спецыялістаў, хаця яго творы заслугоўваюць, каб з імі пазнаёмілася і больш шырокая чытацкая аўдыторыя. Фром належыць да тых вучоных-гуманістаў, што змагаліся за вызваленне чалавечай свядомасці ад улады зманлівых ідэалаў аўтарытарызму, у якім бы абліччы ён ні выступаў. На ўласным вопыце Фрому давялося зведаць антычалавечую сутнасць фашызму, у 1933 г. ён вымушаны быў эмігрыраваць з Германіі ў Амерыку і застаўся там назаўсёды. З выкрываўчай суровай крытыкай фашысцкай сістэмы і яе «правадыра» Гітлера выступіў Фром ужо ў 1941 г. у сваёй кнізе «Уцёкі ад свабоды».**

**Марксава вучэнне аб адчужанасці чалавека ад сваёй існасці было плённа ўспрынята Фромам у справе аналізу буржуазнага грамадства і ўмоў існавання асобы ў сацыяльных структурах, пазбаўленых сацыяльнай справядлівасці і магчымасцяў належнага духоўнага развіцця. Папулярнасці ягоных кніг сярод шматлікіх чытачоў садзейнічала глыбокае разуменне аўтарам унутранага свету чалавека, ягоных праблем і надзей, ягонага права на свабоду, скажэнняў псіхічнага жыцця, абумоўленых заганамі сучаснага грамадства. Кнігі Фрома належалі да ліку бестселераў, некаторыя з іх перавыдаваліся амаль 20 разоў. Найбольш славутыя сярод іх—«Здаровае грамадства», «Чалавек для сябе», «Уцёкі ад свабоды», «Рэвалюцыя надзеі» і іншыя. Да іх належыць і «Мастацтва любові», урывак з якой прапануецца чытачу ў маім перакладзе.**

**Ларыса ЧАРНЫШОВА.**

...ПРАКТЫКАВАННЕ кожнага мастацтва мае пэўныя агульныя патрабаванні незалежна ад таго, датычыцца гэта медыцынскага мастацтва альбо любові... Калі хтосьці хоча стаць майстрам, усё ягонае жыццё павінна быць падпарадкавана абранаму мастацтву альбо зрэшты цесна звязана з ім. Уласная асоба таксама робіцца дзейсным чыннікам у гэтым практыкаванні, і яе неабходна падтрымліваць у адпаведнай для выканання сваіх абавязкаў форме. У дачыненні мастацтва любові гэта азначае, што той, хто імкнецца стаць майстрам, павінен пачаць з практыкавання **дысцыпліны, засяроджанасці, цярпення** ўва ўсіх сферах свайго жыцця... Сутнасць дысцыпліны складаюць не нейкія звонку навязаныя правілы, а здзяйсненне ўласнай волі чалавека ў такіх паводзінах, калі дысцыплінаванасць успрымаецца ім як нешта прыемнае, і тады пры ўсякім адхіленні ад дысцыпліны адразу адчуваецца яе нястача. Адна з заганаў нашага заходняга разумення дысцыпліны (як і ўсякай дабрачыннасці) — гэта меркаванне, што яна павінна быць чымсьці пакутніцкім, і толькі калі гэта пакута дысцыпліны прысутнічае, тады значыцца «ўсё добра». Усход даўно зразумеў, што добрае для чалавека—для яго цела і духа—павінна быць прыемным, хоць бы напачатку і давялося пераадолець пэўныя перашкоды.

**Засяроджанасць** куды больш цяжкая справа для практыкавання ў нашай культуры, дзе ўсё, здаецца, накіравана супраць магчымасці засяроджанасці. Самы галоўны крок у навучанні засяроджанасці—гэта здолець заставацца сам-насам без чытання, слухання радыё, курэння і выпіўкі. Можна навучыцца засяроджанасці ва ўсім, чым бы чалавек ні займаўся,—у слуханні музыкі, чытанні кнігі, у назіранні за чымсьці. Таму, што робіш у дадзены момант, належыць аддавацца цалкам. Калі засяродзіцца, то не мае значэння, што рабіць: як важныя, так і няважныя рэчы набываюць новае вымярэнне, таму што на іх скіравана ўся ўвага. Каб навучыцца засяроджанасці, трэба пазбягаць, наколькі магчыма, трывіяльных размоў, інакш кажучы, размоў неістотных. Калі два чалавекі размаўляюць пра дрэвы, якія яны абодва ведаюць, альбо пра смак хлеба, які яны разам елі, альбо пра агульныя справы, то такая размова можа быць істотнай, калі яны душой адчуваюць, пра што гавораць, а не перакідваюцца абыякавымі словамі; з другога боку, гаворка можа датычыцца пытанняў палітыкі альбо рэлігіі і ўсё роўна заставацца трывіяльнай. Так адбываецца, калі два чалавекі гавораць штампамі, калі яны не ўкладваюць душы ў тое, пра што вядуць размову. Я павінен тут дадаць, што наколькі важна пазбягаць трывіяльных размоў, настолькі ж важна пазбягаць дрэннай кампаніі. Пад дрэннай кампаніяй я разумею не толькі людзей злосных і шкодных: іх кампаніі трэба пазбягаць таму, што яны атручваюць атмасферу і прыгнятаюць. Я маю на ўвазе таксама кампанію «жывых трупаў», людзей, чый дух змярцвеў, хоць цела працягвае жыць; людзей з трывіяльнымі думкамі і размовамі, якія балбочуць замест таго, каб гаварыць, і якія вымаўляюць меркаванні-штампы замест таго, каб думаць самастойна. Аднак не заўсёды магчыма ды і неабходна пазбягаць кампаніі такіх людзей. Калі не адзывацца так, як яны чакаюць,—вымаўляючы штампы і трывіяльнасці,—гаварыць прама і па-чалавечаму, то часта здараецца, што такія людзі мяняюць свае паводзіны, часам ад здзіўлення перад чымсьці нечаканым.

Быць засяроджаным у адносінах з іншымі людзьмі—гэта значыць у першую чаргу ўмець слухаць. Большасць людзей слухаюць іншых альбо нават даюць парады, фактычна не слухаючы. Яны не прымаюць усур'ёз словы іншага чалавека, яны не прымаюць усур'ёз і свае ўласныя парады. У выніку размова стамляе іх. Яны падлягаюць ілюзіі, што стаміліся б яшчэ болей, калі б слухалі засяроджана. Але тут якраз наадварот. Усялякая дзейнасць, калі яна ажыццяўляецца засяроджана, абуджае чалавека (хаця ў астанку і прыходзіць натуральная і карысная стомленасць). У той жа час усялякая незасяроджаная дзейнасць усыпляе—хаця ў астанку яна і не дае заснуць на схіле дня.

Быць засяроджаным—гэта значыць цалкам знаходзіцца ў цяперашнім часе, тут і зараз, а не думаць пра наступную справу ў той момант, калі трэба правільна дзейнічаць менавіта зараз. Няма неабходнасці нагадваць, што засяроджанасць патрабуецца болей за ўсё тым, хто любіць адно аднаго. Яны павінны навучыцца быць блізкімі адно аднаму, не раскідваючыся ў шматлікіх напрамках, як гэта звычайна здараецца. Пачынаць вучыцца засяроджанасці цяжка: будзе здавацца, што гэтай мэты ніколі не дасягнуць. Наўрад ці трэба нагадваць, што тут спатрэбіцца **цярпенне.** Калі забыцца, што ўсё патрабуе часу, і намагацца фарсіраваць справу, то, сапраўды, ніколі не дасягнеш поспеху ні ў авалоданні засяроджанасцю, ні ў мастацтве любові. Каб зразумець, што такое цярпенне, дастаткова паглядзець, як вучыцца хадзіць дзіця. Яно падае, зноў падае і ўсё ж працягвае рабіць новыя спробы, удасканальваецца, пакуль аднойчы не пойдзе роўна. Чаго мог бы дасягнуць дарослы чалавек, калі б ён валодаў цярпеннем дзіцяці і яго засяроджанасцю на сапраўднай мэце!

Нельга навучыцца засяроджанасці, калі не ўмееш адчуваць сябе самога. Што гэта значыць? Няўжо трэба ўвесь час думаць аб сабе, «аналізаваць» сябе? Калі б размова ішла пра тое, што значыць адчуваць аўтамабіль, гэта няцяжка было б растлумачыць. Сапраўды, кожны, хто водзіць аўтамабіль, адчувае яго. Ён заўважае нават маленькі, непрывычны стук, а таксама самыя нязначныя змены пры выключэнні рухавіка. Гэтак жа сама шафёр адчувае змены паверхні дарогі і руху машын, што ідуць наперадзе і ззаду. Аднак жа ён не думае пра ўсё гэта; ягоны розум знаходзіцца ў стане рэлаксаванай пільнасці, чуйны да ўсіх істотных змен таго, на чым ён засяроджаны,—бяспечна весці аўтамабіль.

Калі б мы хацелі даведацца, як адчуваць іншага чалавека, то самы лепшы прыклад нам падала б адчувальнасць і спагадлівасць маці да свайго дзіцяці. Яна заўважае ўсе цялесныя змены, патрэбы, трывогі дзіцяці яшчэ да таго, як яны адкрыта праявяцца. Яна абуджаецца ад плачу свайго дзіцяці, тады як іншыя, нават больш моцныя гукі не здолелі б яе абудзіць. Усё гэта азначае, што яна адчувае праявы жыцця дзіцяці, не будучы ахопленай трывогай і неспакоем, а ў стане пільнай раўнавагі, адчувальная да ўсякага самага малога сігналу, зыходзячага ад дзіцяці. Такім чынам можна адчуваць і сябе самога. Напрыклад, калі ўсведамляеш сваё пачуццё стомленасці альбо прыгнечанасці, то замест таго, каб паддавацца ім і падтрымліваць маркотнымі думкамі, якія заўсёды ёсць напагатове, трэба спытаць сябе: «У чым справа? Чым я прыгнечаны?» Тое ж самае трэба рабіць, калі заўважаеш, што ты раздражнёны альбо раззлаваны, альбо хочаш пафантазіраваць ці якім іншым чынам збегчы ад сябе самога. У кожным з гэтых прыкладаў важна ўсвядоміць іх, а не растлумачваць іх як бог на душу пакладзе, тысяча і адным спосабам. Больш таго, трэба быць чуйным да свайго ўласнага ўнутранага голасу, які скажа — часта вельмі ціхенька, ледзь чутна,—чаму мы ўстрывожаныя, прыгнечаныя, раздражнёныя.

Звычайна чалавек успрымае свае цялесныя працэсы, заўважае змены ў іх і нават невялічкі боль; такі від цялеснай адчувальнасці даволі лёгка зведаць, паколькі большасць людзей мае вопыт добрага самаадчування. Куды больш цяжкая справа—такая ж адчувальнасць да ўласных духоўных працэсаў, таму што шмат людзей ніколі не ведалі чалавека, які жыве па-сапраўднаму. Яны прымаюць за норму псіхічнае жыццё сваіх бацькоў і блізкіх, альбо сацыяльнай групы, у якой нарадзіліся; і пакуль самі не адрозніваюцца ад іх, то адчуваюць сябе нармальна і не зацікаўлены ў якіхсьці назіраннях. Ёсць шмат людзей, якія не бачылі, напрыклад, чалавека, які па-сапраўднаму любіць, альбо чалавека чэснага, адважнага, засяроджанага. Цалкам відавочна, што каб зрабіцца адчувальным да сябе самога, трэба мець вобраз паўнацэннага здаровага чалавечага жыцця. А як атрымаць такую адчувальнасць, калі яе не было ні ў дзяцінстве, ні пазней? Зразумела, што на гэтае пытанне няма простага адказу, але само яно звяртае ўвагу на адзін вельмі варты крытыкі аспект сістэмы нашага выхавання.

Хоць мы вучым ведам, аднак пакідаем без увагі такое выхаванне, якое ў вышэйшай меры важна для развіцця чалавека: выхаванне, якім можа быць простая прысутнасць побач сталага, здольнага да любові чалавека. У папярэдніх эпохах нашай культуры, альбо ў Кітаі і Індыі найбольш паважаным чалавекам быў чалавек высокіх духоўных якасцей. Настаўнік быў не толькі, і нават не ў першую чаргу, крыніцай ведаў, яго прызначэннем было даць пэўныя чалавечыя арыентацыі... Кіназоркі, выканаўцы песень, палітычныя агітадальнікі, важныя бізнесмены і дзяржаўныя фігуры—вось цяперашнія ўзоры для пераймання. На гэтую ролю іх часта высоўвае тое, што ім пашанцавала дабіцца вядомасці. І ўсё ж становішча ўяўляецца не такім ужо безнадзейным. Калі ўлічыць той факт, што такі чалавек, як Альберт Швейцар, здолеў стаць вядомым у Злучаных Штатах, калі ўявіць, як многа ёсць магчымасцей пазнаёміць нашу моладзь з існуючымі сёння і гістарычнымі асобамі, жыццё якіх з'яўляецца доказам таго, чаго здольныя дасягнуць сапраўдныя людзі, а не пацяшальнікі ў шырокім сэнсе гэтага слова, калі ўспомніць пра вялікія творы літаратуры і мастацтва ўсіх часоў, то высветліцца, што ёсць шанс стварыць слушнае ўяўленне аб сапраўдным чалавечым жыцці, а значыць, і адчувальнасць да нягоднага жыцця. Калі ж мы не здолеем садзейнічаць такому ўяўленню, тады мы сапраўды сутыкнёмся з верагоднасцю перарыва ўсёй нашай культурнай традыцыі. Гэта традыцыя галоўным чынам грунтуецца на перадачы не пэўных відаў ведання, а пэўных відаў чалавечых рыс. Калі наступныя пакаленні ніколі больш не ўбачаць гэтых рыс, то культура пяці тысячагоддзяў пойдзе марна, нават калі яе веды будуць перададзены далей і развіты.

Пакуль што я разглядаў рэчы, неабходныя для практыкавання ўсякага мастацтва. Зараз я збіраюся разглядзець якасці, якія маюць выключнае значэнне для здольнасці любіць. У адпаведнасці з тым, што я казаў аб прыродзе любові, галоўную ўмову для дасягнення любові складае пераадоленне ўласнага нарцысізму. Нарцысіцкая арыентацыя — гэта арыентацыя, пры якой чалавек лічыць рэчаіснасцю толькі тое, што адбываецца ў ім самім, у той час як праявы вонкавага свету не маюць для яго каштоўнасці самі па сабе, а ўспрымаюцца толькі з пункту гледжання іх карыснасці альбо небяспечнасці для яго. Полюс, супрацьлеглы нарцысізму, гэта аб'ектыўнасць: яна з'яўляецца здольнасцю бачыць людзей і рэчы такімі, якія яны ёсць, аб'ектыўна, а таксама адрозніваць гэтую аб'ектыўную карціну ад карціны, сфарміраванай уласнымі жаданнямі альбо страхамі. Усе формы псіхозаў дэманструюць крайнюю няздольнасць да аб'ектыўнасці. Для вар'ята адзіная рэчаіснасць тая, якая існуе ў ім самім, рэчаіснасць ягоных страхаў і жаданняў.

Менш экстрэмальныя—ці, магчыма, толькі менш відавочныя скажэнні сустракаюцца ў штодзённых адносінах паміж людзьмі. Як многа бацькоў рэагуюць толькі на тое, ці паслухмянае іх дзіця, ці дае яно ім радасць, ці можна ім ганарыцца і гэтак далей, замест таго, каб успрымаць альбо хоць бы зацікавіцца тым, што адчувае само дзіця. Як многа мужоў лічаць сваіх жонак тыранкамі толькі таму, што прывычка да матчынай паблажлівасці змушае іх разглядаць кожнае патрабаванне жонкі як абмежаванне ўласнай свабоды. Як многа жонак лічаць сваіх мужоў дурнымі альбо недарэкамі толькі таму, што яны не адпавядаюць фантастычнаму вобразу бліскучага прынца, створанаму імі ў дзяцінстве.

Прыслоўем ужо зрабілася адсутнасць аб'ектыўнасці ў адносінах да іншых народаў. Што ні дня ў іншым народзе адкрываюць усё новыя рысы сапсаванасці, жорсткасці ў той час, як свой народ увасабляе ўсё самае лепшае і высакароднае. Кожны ўчынак ворага ацэньваецца па адным крытэрыі. Кожны ўласны—па іншым. Нават добрыя ўчынкі непрыяцеля лічацца знакамі асаблівых д'ябальскіх хітрыкаў, маючых на мэце ашукаць нас і ўвесь свет, у той час як нашы дрэнныя ўчынкі прызнаюцца неабходнымі і апраўдваюцца нашымі высакароднымі мэтамі, якім яны быццам бы служаць. На самай справе, калі прасачыць за адносінамі паміж народамі, як і паміж індывідамі, можна прыйсці да высновы, што аб'ектыўнасць тут з'яўляецца выключэннем, а большая альбо меншая ступень нарцысіцкага скажэння—правілам. Здольнасць думаць аб'ектыўна—гэта разумнасць; эмацыянальная ўстаноўка, якая грунтуецца на разумнасці,—гэта лагода... Лагода і аб'ектыўнасць непадзельныя ад любові. Я не магу быць па-сапраўднаму аб'ектыўным у сваёй сям'і, калі я не магу быць аб'ектыўным да чужых людзей, і наадварот... Калі нехта хоча захаваць аб'ектыўнасць да любага

# «ЯК УМЕЎ, ТАК І ЖЫЎ...»

Знаёмства з творчасцю Уладзіміра Высоцкага, чыё 50-годдзе нядаўна мы адзначалі, для мяне пачалося не праз магнітафон, а праз друкаваны тэкст. Я і цяпер захоўваю газету «Ленинская смена на студенческой стройке» (орган Казахстанскага штаба Усесаюзнага студэнцкага будаўнічага атрада) ад 23 ліпеня 1967 года. Захоўваю яе з тых часоў, калі быў «байцом» цаліннага будаўнічага атрада «Ветэран» Магілёўскага педінстытута, які працаваў недалёка ад Уральска. У той газеце быў надрукаваны верш без назвы (цяпер ён вядомы пад назвай «Звёзды»). Імя аўтара — У. Высоцкі — мне нічога не гаварыла, да нас у Магілёў яшчэ не дайшлі магнітафонныя запісы яго песень. Але верш запомніўся. Я звярнуў увагу на тое, як памайстэрску шчэплены ў ім у цэлую нізку метафар зорка ў небе, зорка на пагонах, Залатая зорка Героя, падаючая зорка — загаданае жаданне і, нарэшце, зорка-куля («С неба упала вторая звезда — прямо под сердце»). Тады я падумаў, што невядомы паэт, аўтар гэтага верша, несумненны талент і, напэўна, яшчэ сустрэнуся з яго новымі вершамі. Нумар той газеты я прывёз у Магілёў. А тут ужо пра Высоцкага ведалі: аднакурснікі, сябры па студэнцкім інтэрнаце прывезлі, хто з Бабруйска, хто з Мінска, магнітафонныя стужкі з песнямі Высоцкага, крыху пазней мы ўбачылі яго ў фільмах «Вертыкаль», «Я родам з дзяцінства»; у часопісе «Кругозор», акрамя пласцінкі з песняй, былі змешчаны і кароткія звесткі пра аўтара. Але ўсё ж гэтых звестак было мала, і мы верылі і не верылі розным легендам, чуткам. Але галоўнае было не гэта, галоўнае — песні. Стараюся зараз успомніць, чым тады, калі мы былі маладыя, яны прываблівалі нас. Нядаўна, калі мне далі пачытаць досыць поўны машынапісны «Збор твораў» У. Высоцкага, у якім сабрана і ўсё тое, што надрукавана ў зборніку «Нерв», часопісных публікацыях, і тое, што яшчэ не друкавалася, я ўзнавіў па памяці, што гэта былі за песні. Калі быць дакладным, то «чыста» блатных песень у Высоцкага наогул нямнога і нават дзіўна, чаму за ім так надоўга замацавалася рэпутацыя аўтара і спевака якраз такіх песень.

Так, былі «Ну пра што з табою гаварыць?», «Той, хто раней з ёю быў», «Гэта быў нядзельны дзень», «Ён жыў, як і ўсе», але ж сёння нельга не заўважыць пародыйнай накіраванасці гэтых песень, іх іроніі. Як адзначыў Е. Сяргееў («Вопросы литературы», № 4, 1986), «Высоцкі не новую хвалю «зладзейскай» песні парадзіў, а, наадварот, спарадзіраваў блатную лірыку, знішчыў яе». Ды і не гэта прыцягвала тады нас, маладых, а тая рамантыка, якою былі прасякнуты песні пра альпіністаў, хакеістаў, лірычныя песні тыпу «Караблі», «Халады», песні пра вайну. Крыху пазней да нас дайшлі запісы з жартоўнымі, сатырычнымі песнямі. Што было і засталося ў песнях Высоцкага, дык гэта надзвычайная натуральнасць і ў словах і ў манеры выканання. Ніякага эстэцтва, манернасці, ніякай фальшы. У тыя гады на эстрадзе панавала (і гэтая тэндэнцыя ўсё ўзмацнялася) песня з неабавязковымі, пустымі словамі, і на гэтым фоне песні Высоцкага, у якіх быў сюжэт, быў змест, думка, успрымаліся як адкрыццё. Дадайце да гэтага адкрытасць, дабрыню, шчырасць, спавядальную манеру выканання. Мусіць, невыпадкова тыя, хто прысутнічаў на канцэртах Высоцкага і запісваў іх на магнітафон, не выключалі яго і тады, калі Высоцкі дзяліўся з прысутнымі сваімі думкамі, адказваў на пытанні, жартаваў. І можна смела сказаць, што песні Высоцкага з самага пачатку спрыялі выхаванню добрых, высакародных пачуццяў, і не было ў іх ні «рамантызацыі крымінальнага свету», ні «ідэалізацыі антыграмадскіх элементаў», у чым яго абвінавачвалі некалі ў друку. У маладзёжным асяроддзі гэта ўсё ўспрымалася з гумарам, і асабліва цаніліся песні, у якіх была, здавалася б, мяккая, але з'едлівая сатыра і на п'яніц, і на мяшчан, і на аматараў лёгкага жыцця. А такіх песень з'яўлялася ўсё больш. Нехта паранейшаму мог залічваць па разраду «блатных» песні, накшталт такіх, як «Міліцэйскі пратакол», «Дыялог ля тэлевізара», «Бальмаскарад», «Зялёны джын», але ж большасць слухачоў успрымалі іх як сатыру на бездухоўнасць, пустату, ідыятызм абмежаванага існавання ўсіх гэтых прыблатнёвых, прапітых, а часта вонкава і зусім рэспектабельных істот. Зараз некаторыя асабліва фанатычныя прыхільнікі творчасці Высоцкага даводзяць, што ён нібыта адзін быў у паэзіі праўдзівым у «часы застою». Гэта не так. Проста Высоцкі закранаў у сваіх песнях такія сферы нашага побыту, якія нават сатырыкі лічылі для сябе задужа нізкімі, ды і сатыра ў яго была нетрадыцыйная, без маралізатарства, без павучанняў. Ён ужываўся ў ролю п'яніцы, мешчаніна, абывацеля і выкрываў яго «знутры», праз яго ж словы, думкі. Так зроблены, напрыклад, яго фельетоны: «Пісьмо мужу» і «Адказ», «Мішка Шыфман», «Антысеміты», «Песня аўтазайздросніка», «Мой сусед». Філосаф В. Талстых у артыкуле «У люстры творчасці» («Вопросы философии», № 7, 1986) слушна адзначае, што Высоцкі прывучыў нас слухаць і чуць іншы раз хваравіта вострыя рэчы, але ён ніколі не быў пастаўшчыком палітычнай «клубнічкі».

У творчасці Высоцкага з часам усё больш узмацняўся філасофскі пачатак, у яго песнях з'яўляюцца матывы роздуму пра сэнс жыцця, пра паэзію, пра сябе ў свеце. З'яўляюцца такія песні, як «Благадаць або благаславенне», «Пра фатальныя даты і лічбы», «Масты згарэлі...» і інш.

Пасля смерці Высоцкага і асабліва ў апошнія два гады, надзвычайна ўзмацнілася цікавасць да ўсяго, што звязана з ім. Зноў запісваюцца і перазапісваюцца песні, выпускаюцца новыя пласцінкі. Газеты і часопісы — ад «Советской культуры» і «Дружбы народов» да «Катера и яхты» і «Спортивные игры» — друкуюць яго вершы. Пісьменнікі, нарэшце, прызналі, што «Высоцкі — незвычайны паэт» («Дружба народов», № 10, 86). Самыя захопленыя з прыхільнікаў параўноўваюць паэта з Пушкіным. А колькі ўспамінаў, артыкулаў, публікацый! У тым ліку і Марыны Уладзі — у перакладзе на беларускую мову на старонках «Звязды» (беларускі чытач змог упершыню даведацца пра ўражанні знакамітай актрысы ад сустрэчы з Беларуссю).

Думаецца, аднак, што галоўнае ў асэнсаванні Высоцкага як з'явы не ў высвятленні падрабязнасцей яго біяграфіі. Высоцкі сам гэтага не любіў і, выступаючы, папярэджваў: «На пытанні пра асабістае жыццё адказваць не буду».

Уладзімір Высоцкі быў вылучаны на Дзяржаўную прэмію СССР: «за стварэнне вобраза Жаглова ў тэлевізійным мастацкім фільме «Месца сустрэчы памяняць нельга» і аўтарскае выкананне песень». Якраз яго песні і апошняя роля ў кіно набылі такую шырокую вядомасць, што заслужана былі адзначаны Дзяржаўнай прэміяй СССР. Хоць, вядома, былі яшчэ і 16 год працы ў Тэатры на Таганцы, 24 кінафільмы, у якіх ён здымаўся.

Толькі цяпер мы даведваемся, якім інтэнсіўным жыццём ён жыў, якія разнастайныя былі ў яго задумы ў тэатры, у кіно, у аўтарскай песні. Высоцкі многага не паспеў, але і тое, што ім зроблена, застанецца.

**Міхась КЕНЬКА.**

# І ЯК РАНЕЙ ГУЧАЦЬ ЦЫМБАЛЫ...

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, Антону было ўсяго 14 гадоў. Сям'я Петрашкевічаў жыла пад Мінскам. З сярэдзіны сорак другога года, як і многія іншыя сем'і, апынулася ў партызанскім атрадзе.

Так пачалася ваенная біяграфія падлетка, які да дня вызвалення быў разведчыкам у атрадзе «25 год БССР» брыгады імя П. К. Панамарэнкі. Неаднойчы выконваў небяспечныя заданні, рызыкаваў жыццём.

Не любіць Антон Канстанцінавіч успамінаць аб гэтым. «Такі лёс многіх з майго ваеннага пакалення», — гаворыць ён.

Пасля вызвалення Беларусі былога партызана накіроўваюць на вучобу ў вучылішча ФЗН. З дзяцінства ў яго была прыхільнасць да музыкі, граў на цымбалах. Гэтую прыхільнасць ён пранёс і праз вайну. У партызанскім атрадзе не давалі Антону забыцца аб сваім уменні. Прыносілі партызаны цымбалы і прасілі выканаць знаёмыя мелодыі ў кароткія гадзіны адпачынку. У вучылішчы Антон ужо не развітваўся з любімым музычным інструментам. А калі ў 1946 годзе на ўсесаюзны агляд народнай творчасці ў Маскву ад Беларусі накіроўвалі групу самадзейных артыстаў пад кіраўніцтвам М. Укусава, сярод іх быў і А. Петрашкевіч. Цёпла сустракалі ў сталіцы маладых артыстаў, нядаўніх партызан і падпольшчыкаў.

З цягам часу захапленне ігрой на цымбалах перайшло ў прызванне. Хутка А. Петрашкевіч паступае ў Мінскае музычнае вучылішча імя Глінкі. Са студэнтаў у Белдзяржфілармоніі была падрыхтавана група пад кіраўніцтвам А. Астрамецкага для аркестра імя Жыновіча, з якім А. Петрашкевіч назаўсёды звязаў свой лёс.

20 гадоў прысвяціў ён любімай справе. З гэтым калектывам аб'ездзіў усю краіну. Тыя, хто цікавіцца музыкай, гучаннем народных інструментаў, напэўна, слухалі і пласцінкі, на якіх запісаны выступленні дуэта цымбалістаў А. Петрашкевіча і В. Дубінскага.

Цяпер Антон Канстанцінавіч на заслужаным адпачынку, але ён не развітваецца з любімым музычным інструментам. І як раней гучаць яго цымбалы...

**С. МАЗЬКО,**
**выхавацелька дзіцячага сада.**
г. Мінск.




з 8 па 14 лютага

**8 лютага, 19.25**
**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЁ ПІСЬМО...»**
«Што хачу — тое і раблю» — па такім прынцыпе жывуць і працуюць некаторыя работнікі гандлю на вёсцы. Пра гэта — першае пісьмо. А ў музычнай школе імя Цікоцкага ў Бабруйску так холадна, што вядомаму віяланчэлісту ўсе настаўнікі дружна хукаюць на пальцы, каб мог адбыцца канцэрт...

**9 лютага, 19.50**
**«ЛЮБЛЮ НАШ КРАЙ»**
Да 95-годдзя з дня нараджэння К. Буйло.

**10 лютага, 19.25**
**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**
Вершы М. Сурначова чытаюць артысты мінскіх тэатраў.

**12 лютага, 18.30**
**«ДЗВІНА»**
Літаратурна-мастацкі часопіс. Перадача з Віцебска.

**12 лютага, 23.50**
**«НАКЦЮРН»**
Рамансы Танеева, Арэнскага выконвае В. Цішына.

**13 лютага, 11.15**
**«СЛОВА ПРА ЛЕНІНА І ЛЮДЗЕЙ НОВАЙ ВЁСКІ»**
Перадача знаёміць з кнігай І. М. Баранкевіча, першага біёграфа Леніна, таленавітага публіцыста, пісьменніка і прапагандыста беларускай літаратуры. Яго пяру належыць шэраг апавяданняў цыкла «Людзі новай вёскі» пра тое, як успрымаліся рэвалюцыйныя перабудовы простым народам.

**13 лютага, 14.50**
**«МЕТРАНОМ»**
Маладыя... Хто яны?.. Музычны агляд.

**13 лютага, 23.20**
**«ВЯЧЭРНІ КАНЦЭРТ»**
Іграе ансамбль скрыпачоў Вялікага тэатра Саюза ССР. У праграме Глазуноў, Пракоф'еў, Шчадрын, Святланаў, Чулакі, Хачатуран, Хрэннікаў, Сарасатэ.

**14 лютага, 18.10**
**«МІНСК МУЗЫЧНЫ»**
Канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра БССР. Прагучаць творы Чайкоўскага, Смольскага, Глебава. Дырыжор — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Ю. Яфімаў.

**14 лютага, 23.05**
**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**
Інфармацыйна-музычная праграма.

## Запрашае Дом літаратара

У Доме літаратара (вул. Фрунзе, 5).

9 лютага — вечар, прысвечаны 200-годдзю Джорджа Гордана БАЙРАНА.

11 лютага — вечар новай кнігі. Міхась Стральцоў «Выбранае. Проза, паэзія, эсэ».

16 лютага — вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Алеся ГАРУНА.

17 лютага — Я. Купала «Паўлінка» (спектакль тэатра-студыі «Летуценнік» філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна).

19 лютага — вечар, прысвечаны 180-годдзю з дня нараджэння Вінцэнта ДУНІНА-МАРЦІНКЕВІЧА.

23 лютага — вечар, прысвечаны Дню Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту.

25 лютага — народны вячэрні універсітэт літаратуры.

26 лютага — літаратурны вечар Уладзіміра ДАМАШЭВІЧА.

**Наш вернісаж**

Выстаўка твораў графіка Вячаслава ПАУЛАУЦА.

Пачатак вечароў у 19 гадзін.

Даведкі па тэлефонах: 36-95-73, 36-09-09.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 01044

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.